# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 52 (722) 28 СНЕЖНЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.

**З выпадку наступаючага Новага Года ўсім актывістам і членам БГКТ, усім арганізацыям і ўстановам, якія супрацоўнічаюць з намі, усім нашым сябрам і сімпатыкам шлем самыя сардэчныя прывітанні і пажаданні далейшых поспехаў у грамадскай працы і асабістым жыцці.**

**ПРЭЗІДЫУМ ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА.**



# БГКТ

### КАНФЕРЭНЦЫЯ АДДЗЕЛА

11 снежня адбылася справаздачная канферэнцыя гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку. Адкрыў яе член праўлення Васіль Баршчэўскі. Па яго прапанове прысутныя хвілінай цішыні ўшанавалі памяць памёршага летам члена праўлення Васіля Літвінчыка.

Справаздачны даклад чытаў намеснік старшыні аддзела Уладзімір Куршэль. У дакладзе, між іншым, гаварылася: «Будзем намагацца, каб наша гарадская арганізацыя беларускага таварыства ў Беластоку прычынялася да ўзнімання на вышэйшы ўзровень нацыянальнай гордасці, каб прычынялася да таго, каб многія беларусы не саромiліся сваёй нацыянальнасці, каб не саромiліся сваёй роднай мовы, сваёй культуры. Хочацца выказаць такое пажаданне, каб беларускае таварыства, яго актыў стаўся тымі дражджамі, якія паднімалі б ранг нашай арганізацыі, каб дзейнасць БГКТ адчувалася ў горадзе Беластоку і прычынялася да патрыятычнага і інтэрнацыянальнага выхавання».

Затым са справаздачнай інфармацыяй выступіў старшыня рэвізійнай камісіі Хведар Садоўскі. У дыскусіі прыняло ўдзел 13 асоб. Мікалай Поль падтрымліваў думку, выказаную ў дакладзе адносна ўтварэння ў будынку ГП пункта навучання дзяцей роднай мове, а Іван Стрышко, цытуючы вершы аб значэнні і прыгожасці роднай мовы, даказваў, што беларусы, якія жывуць у Беластоку, не павінны цурацца роднай мовы.

Сяргей Гайдук успамінаў 1956 год, той час, калі былі цяжкія памяшкальныя ўмовы, але тады куды лепш развівалася ўсебаковая мастацкая самадзейнасць у беларускім таварыстве. Далей застанаўляўся ён над прычынамі такога становішча ў аддзеле.

Кастусь Масальскі прапанаваў, каб арганізаваць нараду працаўнікоў гарадскіх клубаў для абмену вопытам у працы. Прапанаваў таксама апрацаваць анкету адносна культурна-асветнай дзейнасці. Гэтую прапанову падтрымала Люба Трахімчук, даказваючы, што такая ананімная анкетызацыя можа падказаць шмат новых форм для працы клуба.

Марыся Макаль — інструктар ГП на гарадскі аддзел — паінфармавала аб планах адносна далейшай працы ў клубе. Сакратар ГП Янка Зенюк расказаў прысутным аб праблематыцы, якой займалася ў апошні час Галоўнае праўленне, а таксама аб далейшых запланаваных працах. Выказаў ён шэраг заўваг да працы аддзела, а таксама падказаў напрамкі ў далейшай працы. З'яўляецца імі праца з актывам, са студэнцкай моладдзю, з моладдзю сярэдніх школ, а таксама цеснае супрацоўніцтва з гарадскімі арганізацыямі, установамі і прадпрыемствамі. У дыскусіі выступілі яшчэ: Кастусь Сідаровіч, Уладзімір Навіцкі, Іван Младзяноўскі, Хведар Бароўскі, Янка Цялушэцкі і Мікалай Патэюк. Пасля дыскусіі, ад імя камісіі прапаноў, Іван Стрышко зачытаў падрыхтаваныя прапановы, і ўдзельнікі канферэнцыі з некалькімі папраўкамі прынялі іх да рэалізацыі.

Далейшым пунктам канферэнцыі былі арганізацыйныя справы. Згодна з пастановай прэзідыума ГП, праўленне гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку павінна складацца з 21—27 асоб, а яго прэзідыум з 7—9 асоб. У сувязі з гэтым на гэтай канферэнцыі праўленне аддзела было пашырана да 27 чалавек. На новых членаў праўлення былі выбраны: Янка Чыквін, Сяргей Плева, Ніна Вішнеўская, Мікалай

(Працяг на стар. 4)



**Ён сядзіць ля апарата, які толькі што «запісаў яго». Што там на стужцы? Не спяшаючыся ўчытваецца ў яе чалавек, які быццам бы зліўся са спакоем, разлітым навокал. Вось ён, аказваецца, які ў ціхіх кабінетных і ўжо прывычных для яго абставінах, Аляксандр Мядзведзь. Аспірант як аспірант. Зараз ён мала падобны на таго чалавека, з якім я знаёмы. Проста я прывык яго бачыць у іншай атмасферы... (Аб слаўным беларускім барцы А. Мядзведзю чытайце на стар. 6.).**

## З наступаючым Новым годам

**Мінуў яшчэ адзін год. Старыя на год пастарэлі, маладыя на год паразумнелі. А кожны жывучы меў свае 365 дзён (12 месяцаў, 52 тыдні і 52 нумары «Нівы», якія атрымаў), у якіх замкнуў 8.769 гадзін, 525.600 мінут і 31.536.000 секунд свайго жыцця.**

**Яшчэ раз кожнаму расцвілі кветкі вясной, закаласілася жыта ўлетку, схіліліся цяжкія пладамі галіны яблынь ўвосень і ўпаў першы снег. Падыйшоў кожны да канца старога года. Стаў на парозе, дзе сімвалічна сутыкаецца няўмольнае, адвечнае людское праміnанне часу. І яшчэ дзень і яшчэ ноч, і стары год, хоча ці не хоча, адыдзе, станецца гісторыяй, а насустрач выцягне руку на прывітанне новы, малады.**

**З вялікім ушанаваннем развітаемся са старым нашым годам 1969. Быў годам, багатым падзеямі і непаўторнымі здарэннямі. Годам усенароднага ўздыму, годам вялікага юбілею — 25-годдзя нашага новага жыцця.**

**Слава наша прайшла па зямлі краіны — уздоўж і ўшыр яе, па-над лесам завадскіх комінаў, вялікімі воднымі запорамі, гордымі кранамі на новых стройках; па-над палямі, дамамі, імклівымі паяздамі і аўтобусамі; па-над лініямі новых дарог і новых электрычных правадоў, новымі пасадкамі лясоў. Казка змянялася жыццём.**

**З усім чалавецтвам нырнулі мы ў Сусвет, аж да гордага і недаступнага Марса дакрануліся, і двойчы сталі на Месяцы. Казка змяняецца ў жыццё, а жыццё ў казку.**

**Новую казку прыносіць нам новы год. Які будзе? Не можам сказаць цяпер, што не ведаем. Бо многа ведаем, многа можам ужо ведаць, і многае залежыць ад нас.**

**Будзе, напэўна, годам ураджайным, бо зямлю ўмеем прымусіць урадзіць больш, чым калі-небудзь дагэтуль. Будзе, напэўна, больш тавараў, бо ўваходзяць у прадукцыю новыя фабрыкі і новыя цэхі на фабрыках. Будзем, напэўна, больш чытаць, бо новыя мільёны кніжак выйдуць з друкарскіх станкоў. Будзем, напэўна, больш адпачываць, бо працу нашых рук заменяць новыя машыны. Будзем, напэўна, больш думаць, бо з кожным годам становімся мудрэйшымі. Будзем, напэўна, здаравейшымі, бо прыдуць новыя лекары. Будзем, напэўна, смялейшымі, бо чалавек працы свае рабочыя рацыі бараніць павінен перад рознымі варожымі нам поглядамі, у імя інтарэсаў вялікай суполкі ўсіх грамадзян Айчыны, для дабра кожнага і ўсіх разам.**

**Новы год вымагае новай і энергічнай мабілізацыі сіл, каб казка дзядоў пераўтваралася ў жыццё, а жыццё ў казку. Уперадзе шкляныя сонечныя дамы, аб якіх людзі марылі і пісалі, а якія мы збудуем для ўсіх. Бо мы маладыя: сіламі, думкамі, духам і целам. Больш адной чацвёртай нашага народа — гэта вучні пачатковых і сярэдніх школ. За наступныя 25 год Айчына падаруе ім медалі за будову і разбудову краіны, за гэтыя шкляныя дамы, за зялёныя палі і лясы і за чыстае паветра над галавой.**

**Новы год натхняе новым энтузіязмам, новым аптымізмам, новымі ўзлётамі. Вышэй, смялей, размашысцей ляцім! Добра, што час мінае, ідзе наперад. І мы разам з ім уваходзім у новы год. Крок яшчэ... На секунду цішыня прытаілася і вось непадкупны гадзіннік звучна выбівае час... Настае год 1970.**

**З Новым Годам! З новым шчасцем!**

З нарады кіраўнікоў школ

# СЛУЖЫЦЬ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ІНТЭГРАЦЫІ

11 снежня 1969 года адбылася ў Беластоку ваяводская канферэнцыя кіраўнікоў школ, арганізуючых навучанне беларускай мовы, прысвечаная ацэнцы гэтага ж школьніцтва. Арганізатарам нарады была Кураторыя школьнай акругі ў Беластоку і ГП БГКТ.

У нарадзе прымалі ўдзел: кіраўнік Аддзела прапаганды ВК ПАРП — **В. Авер,** візітатар Міністэрства асветы — **Ст. Янкоўскі**, прадстаўнік ВК ПАРП — **В. Філіпкоўскі,** сакратар Акруговага праўлення ЗНП — **Г. Орляч,** старшыня і сакратар ГП БГКТ — **М. Хмялеўскі** і **Я. Зенюк,** старшыня Нацыянальнай камісіі ВК ПАРП — **З. Дамброўскі.**

З дакладам выступіў віцэ-куратар **Ст. Роман.** Гаворачы аб заданнях нацыянальнага школьніцтва ў Польшчы, сцвердзіў ён, што адной з важных задач гэтага школьніцтва з'яўляецца распаўсюджванне прагрэсіўных нацыянальных традыцый, фальклору і помнікаў айчыннай культуры, паглыбленне сяброўскіх сувязей між народамі і і развіванне ў вучняў пачуцця патрыятызму і інтэрнацыяналізму.

Зараз у 164 школах Беласточчыны выкладаецца беларуская мова, прычым 22 школы — гэта школы з беларускай мовай навучання, а ў апошніх бел. мова выступае як прадмет.

Ужо некалькі год, па ініцыятыве зацікаўленых бацькоў у беларускім школьніцтве назіраецца паступовы пераход школ з бел. мовай навучання ў школы з польскай мовай навучання, якія дадаткова арганізуюць навучанне айчыннай мовы. — Гэтая з'ява, — сцвярджалася ў дакладзе, — звязана з натуральнымі працэсамі інтэграцыі нацыянальных меншасцей з польскім народам.

Пераходзячы да ацэнкі ўзроўню навучання ў школах, арганізуючых навучанне бел. мовы, дакладчык з задавальненнем сцвердзіў, што ў апошнія гады наглядаецца паступовая папраўка вынікаў навучання. Вынікі спраўнасці і пераходу вучняў з класа ў клас амаль нічым не розняцца ад сярэдніх вынікаў у ваяводстве. Аднак агульны працэс у гэтай галіне запазняюць школы, якія не атрымліваюць паспяховых дыдактычных вынікаў. Прычыны гэтага — розныя. Аднак большасці з іх трэба шукаць у саміх школах, у працы настаўнікаў і кіраўнікоў школ. Супрацьлегласцю такіх школ з'яўляюцца пляцоўкі, якія атрымліваюць добрыя і выдатныя вынікі навучання, а да іх залічаны, між іншым, школы: № 3 у Бельску, у Орлі, Курашаве, Нараўцы і Клейніках.

Многа месца ў дакладзе прысвечана рэалізацыі праграмы навучання беларускай і польскай моў, а таксама і іншых прадметаў, звяртаючы ўвагу, што асаблівым клопатам педагагічных саветаў школ, у якіх выкладаецца бел. мова, павінна быць вывучэнне польскай мовы. Таму да навучання польскай мовы ў нацыянальных асяроддзях трэба кіраваць добра падрыхтаваных педагогаў. Спецыфіка навучання польскай мовы ў асяроддзях нацыянальных меншасцей патрабуе таксама спецыяльных метадычных вырашэнняў.

Шмат увагі было прысвечана кадравым справам. Кураторыя лічыць, што найлепшым спосабам адукацыі настаўнікаў бел. мовы будзе стварэнне адпаведнага аддзялення пры ВСН у Беластоку і з такімі прапановамі Кураторыя высту-

(Працяг на стар. 5)

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### СУСТРЭЧА

У суботу 20 снежня г.г. у сталіцы Марока — Рабаце сабраліся кіраўнікі арабскіх краін, каб разгледзець напружаную сітуацыю на Блізкім Усходзе, выкліканую няспыннымі актамі агрэсіі з боку Ізраіля.

Цяжка прадбачыць вынікі гэтай сустрэчы. Вядома, што арабскі свет не з'яўляецца аднародным. Сведчаць аб гэтым хаця б апошнія сутычкі на граніцы саўдыйска-лібійскай. Але з другога боку вядома, што арабская сустрэча адбываецца ў той час, калі ўсе бачаць, што Ізраіль адкінуў і адкідае ўсе мірныя прапановы. Арабскія краіны зразумелі, што Ізраіль імкнецца падыктаваць свае ўмовы кожнай з арабскіх краін пры дапамозе бамбардзіровак і артылерыі. У такім выпадку арабскім краінам не застаецца нічога, як толькі сілай вызваліць акупаваныя Ізраілем тэрыторыі. Сустрэча ў Рабаце адбываецца ўрэшце ў той час, калі даходзяць да нас інфармацыі як з усходу, так і з захаду аб вялікім умацаванні ўзброеных сіл арабскіх краін.

Не без уплыву на адносіны паміж паасобнымі арабскімі краінамі акажуцца: пабыўка караля Саўдыйскай Аравіі Файсаля ў Егіпце і праведзеныя тут размовы з прэзідэнтам Насерам.

Так ці інакш, сам факт, што дайшло да склікання такой канферэнцыі, сведчыць аб вялікай волі прыняцця ўдзелу ў ліквідацыі вынікаў ізраільскай агрэсіі. Хаця магчыма, што ў часе сустрэчы будуць разглядацца і іншыя справы.

### У В'ЕТНАМЕ І... ЗША

Між 6 а 12 снежня г.г. у Паўднёвым В'етнаме загінула 85 амерыканскіх і 420 сайгонскіх воінаў, а лікі гэтыя не былі найбольшымі ў апошні час. А ў Парыжы адбылася чарговая, ужо 47-ая сустрэча чатырох, якая не пасунула справы мірнага ўрэгулявання в'етнамскай праблемы ані на крок.

Тым часам грамадскасць ЗША штораз больш раздзертая. Адбываюцца шматлікія дэманстрацыі і паходы, у якіх прыймаюць удзел былыя воіны, прымаўшыя ўдзел у в'етнамскай вайне. Удзельнікі дэманстрацый дамагаюцца заканчэння гэтай бруднай вайны.

### СЕСІЯ ААН

24-ая сесія Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый закончылася. Не прынесла яна спецыяльна вялікіх пастаноў. Але бываюць справы невымерныя, як, напрыклад, тон ці стыль абмяркоўкі пастаўленых на парадку дня спраў. Агульна падкрэсліваецца, што праца 24-ай сесіі ААН была канструкцыйная і дзелавая.

24-ая сесія ААН выказала, што абсалютная большасць дзяржаў асуджае агрэсіўную палітыку Ізраіля, а больш, чым 80 дзяржаў асудзіла прымяненне хімічнай зброі амерыканцамі ў В'етнаме.

### БЮДЖЭТ ААН

Бюджэт ААН на 1970 год, які зацвердзіла Бюджэтная камісія ААН, складзе 168.420 тысяч долараў. А. К.



## БССР

### СЕМІНАР

У Беларускім навукова-даследчым інстытуце жывёлагадоўлі ў Жодзіна адбыўся семінар сакратароў і загадчыкаў сельскагаспадарчых аддзелаў абласных камітэтаў партыі, намеснікаў старшынь абласных выканаўчых камітэтаў, начальнікаў і галоўных заатэхнікаў абласных упраўленняў сельскагаспадарчых навукова - даследчых інстытутаў, кіруючых работнікаў ЦК Кампартыі Беларусі, Савета Міністраў Беларускай ССР, міністэрстваў і ведамстваў.

З галоўным дакладам у час семінара выступіў першы намеснік міністра сельскай гаспадаркі Беларускай ССР В. Казлоў. Галоўная ўвага была звернута на правідловае выкарыстанне кармавых рэсурсаў, якія назапашаны ў калгасах і саўгасах. Сцвярджалася: «Скарміць іх можна па-рознаму: з карысцю або змарнаваць».

Шмат з таго, аб чым гаварылася на семінары, удзельнікі яго паглядзелі на выстаўцы і ў лабараторыях інстытута, на фермах эксперыментальнай базы «Зарэчча», дзяржаўнай кантрольна-племяннай станцыі па свінагадоўлі.

У рабоце семінара прынялі ўдзел першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР У. Лабанок і сакратар ЦК Беларусі У. Міцкевіч.

### СЛАВАЦКАГА

У сувязі з 26-ай гадавінай Дагавору аб дружбе, узаемнай дапамозе і пасляваенным супрацоўніцтве паміж Саюзам ССР і Чэхаславакіяй у Беларусі пабывала дэлегацыя Славацкага Цэнтральнага Камітэта Саюза чэхаславацка-савецкай дружбы. Дэлегацыю запрасіла Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі і Беларускае аддзяленне Таварыства савецка- чэхаславацкай дружбы.

Дэлегацыю славакаў узначальваў сакратар Славацкага Цэнтральнага Камітэта Саюза, Густаў Чэх. У складзе дэлегацыі — супрацоўнік Прэзідыума ўрада Славацкай Сацыялістычнай Рэспублікі Антон Ружычка, дзеячы славацкай культуры і навукі.

### БЕЛАРУСКАЙ ССР

У сталіцы Саюза, Маскве, адбыліся Ленінскія дні навукі Беларускай ССР.

У Беларусі налічваецца звыш 170 навуковых устаноў, у якіх працуе амаль 19 тысяч супрацоўнікаў, з іх 344 дактары навук і больш як 4,5 тысячы кандыдатаў навук. Найбольшай навуковай установай з'яўляецца Акадэмія навук Беларускай ССР, у інстытутах і лабараторыях якой занята звыш сямі тысяч чалавек.

### МАЛОЧКА

Старшыня Гродзенскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных, Мікалай Малочка, узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, які прызнаў Вярхоўны Савет Саюза ССР.

### АГЛЯДУ

Прэзідыум Беларускага саюза прафесіянальных арганізацый, калегіі Міністэрства асветы Беларускай ССР і Міністэрства культуры Беларускай ССР прынялі супольную пастанову аб правядзенні ў 1969—1970 навучальным годзе рэспубліканскага агляду «Творчасць юных», прысвечанага 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна. (ся)



## ПОЛЬШЧА

### XI З'ЕЗД

У Варшаве адбыўся XI з'езд прафсаюза работнікаў сельскай гаспадаркі. З дакладам выступіў старшыня Галоўнага праўлення прафсаюза работнікаў сельскай гаспадаркі Тадэуш Рыбіцкі.

Прааналізаваў ён датыхчасовыя дасягненні прафсаюза на працягу 50-годдзя яго існавання, а наступна — прадукцыйныя дасягненні сельскагаспадарчых прадпрыемстваў. Звярнуў таксама ўвагу на матэрыяльныя карысці, якія рабочыя калектывы атрымліваюць, дзякуючы пастаяннаму павышэнню прадукцыі. Навязваючы да гэтага, прамоўца ўказаў на ўсё яшчэ існуючыя рэзервы павышэння сельскагаспадарчай прадукцыі.

Шмат увагі тав. Рыбіцкі прысвяціў уводжанню да сельскагаспадарчай прадукцыі дасягненняў навукі. Гаворачы аб прычынах недахопаў у гэтай галіне, тав. Т. Рыбіцкі ўказаў на недастатковыя кваліфікацыі кіраўнічых і спецыялістычных кадраў у ПГР-ах, на недастатковую дзейнасць аб'яднанняў і інспектараў у галіне папулярызацыі сучасных метадаў прадукцыі, а таксама на слабое супрацоўніцтва навуковых інстытутаў з практыкай. Апошнюю частку свайго выступлення тав. Т. Рыбіцкі прысвяціў выхаваўчай дзейнасці прафсаюза. З'езд выбраў новыя ўлады прафсаюза і прыняў ліст да I сакратара ПАРП Уладзіслава Гамулкі, у якім дэлегаты з'езду запэўніваюць, што рабочыя калектывы дзяржаўных гаспадарак прыкладуць усе намаганні, каб поўнасцю выканаць пастаўленыя перад сельскай гаспадаркай задачы.

### ЗМВ

Ва ўсіх ваяводствах адбыліся ўжо з'езды Саюза сялянскай моладзі, якія выбралі дэлегатаў на IV агульнапольскі з'езд гэтай арганізацыі. З'езд мае адбыцца пад канец лютага наступнага года.

### САЦЫЁЛАГІ

У Познані адбыўся IV агульнапольскі з'езд сацыёлагаў. Галоўная тэма з'езду: тэорыя і сацыялістычныя доследы — і грамадская практыка. З асноўным дакладам на тэму: «Месца сацыялогіі ў сацыялістычным грамадстве» выступіў старшыня Польскага сацыялагічнага таварыства праф. Уладзімір Маркевіч. Гаворачы аб ролі сацыялогіі ў ідэалагічным фронце, прафесар падкрэсліў значэнне высунутага ў адрас сацыёлагаў пастулата абароны асноўных вартасцей сацыялістычнай сістэмы і ўгрунтоўвання гэтых вартасцей у свядомасці народу згодна з грамадскай роляй сацыялогіі.

### «ЛЮКС-ПОЛЬ»

У Шчэцінскім Старагардзе будуецца сучасная трыкатажная фабрыка «Люкс-Поль», якая будзе прадукаваць мужчынскія і жаночыя кашулі тыпу «нон-айрон». У 1972 годзе фабрыка выпусціць 5 мільёнаў штук нямнучыхся трыкатажных вырабаў. Прадпрыемства абсталявана навейшымі машынамі японскай, італьянскай і французскай прадукцыі. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### ДАТЭРМІНОВА

Фабрыка дакладных вырабаў у Чорнай Беластоцкай датэрмінова выканала гадавы план прадукцыі. Асабліва трэба пахваліць рабочы калектыў гэтай фабрыкі за тое, што перавыканаў ён план экспартнай прадукцыі. У 1970 годзе прадукцыйныя заданні фабрыкі ўзрастуць на 10%. Сяляне атрымаюць з Чорнай Беластоцкай 4800 штук змадэрнізаваных растрасальнікаў гною. 1800 гэтых растрасальнікаў прызначаецца на экспарт у Савецкі Саюз.

### НА ГАЙНАЎШЧЫНЕ

Падсумаванне грамадскай актыўнасці жыхароў Гайнаўскага павета ў сувязі з 25-годдзем Польскай Народнай Рэспублікі паказвае, што выканалі яны грамадскім чынам розныя працы на суму ў адзін мільён злотых, што вартасць абавязацельстваў для адзначэння юбілея нашай краіны склала там суму ў звыш 11 мільёнаў зл.

### ПЛАН...

...збору складчын на грамадскі фонд пабудовы школ і інтэрнатаў жыхары Беласточчыны выканалі датэрмінова. Сабрана амаль 32 мільёны злотых. Першае месца ў гэтай грамадскай акцыі прыпала жыхарам горада Беластока. Добрыя вынікі дасягнулі таксама ў Алецкім, Граеўскім, Галдапскім, Ломжынскім і Кольненскім паветах. З прыкрасцю сцвярджаем, што сярод адстаючых паветаў знайшлася Гайнаўшчына.

### З'ЕЗД

У Беластоку адбыўся I з'езд Таварыства развіцця свецкай культуры. Яго ўдзельнікі падвялі вынікі датыхчасовай дзейнасці і выбралі Ваяводскае праўленне таварыства, якое ўзначаліў дацэнт доктар Люцыян Вісне́ўскі.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ

Гарадская арганізацыя Саюза сацыялістычнай моладзі ў Беластоку налічвае звыш 10 тысяч членаў. Іх прадстаўнікі сабраліся 18 снежня г.г. на справаздачна-выбарчай канферэнцыі, у якой таксама прыняў удзел сакратар Галоўнага праўлення ЗМС Марэк Яськевіч. У дакладзе і дыскусіі шмат месца было прысвечана справе прафесіянальнай падрыхтоўкі маладых людзей да самастойнага жыцця.

Старшынёю праўлення гарадской арганізацыі ЗМС выбралі паўторна Станіслава Складоўскага.

### НАРАДА ЖАНЧЫН

Актывісткі грамадскага жаночага руху з Беластоцкага ваяводства сабраліся ў Беластоцкім водна-меліярацыйным тэхнікуме, каб абмяняцца вопытам са сваёй грамадскай працы. Выслухалі яны два даклады: пра апеку над вясковым дзіцём і аб актуальных праблемах жанчын у вёсках. Аказваецца, што ў гэтым годзе толькі гурткі вясковых гаспадынь у час палявых работ наладзілі аж 346 вясковых дзяцінцаў, што гэтая акцыя з года ў год стаецца ўсё больш папулярнай.

### КОНЬ У КАЛОДЗЕЖЫ

У Бельску ўтапіўся ў калодзежы конь. Папаў ён туды ў выніку бойкі з другім канём. На ратунак няшчаснаму каню паспяшаліся людзі, аднак не змаглі яго выратаваць. (вр)




**Niedziela, 28.XII.**

8.25 Program dnia. 8.30 ,,Przypominamy radzimy". 8.45 Dla młodych widzów: ,,Gdzie my — tam granica" — film TVP (,,Czterej pancerni i pies"). 10.00 Dla młodych widzów: ,,Pozdrowienia od przyjaciół" (Tallin). 10.45 "Melodie na dzień dobry". 11.05 ,,Odwrót" — film pol. 11.30 ,,Czy znacie Leningrad?" (Leningrad). 12.00 Dziennik. 12.15 ,,Muzyka Staropolska we Wrocławiu" 13.00 Dla dzieci: ,,Najazd Czarnego Księcia" — film. fab. radz. 14.20 ,,Przemiany". 14.50 ,,Cecylia — lekarka wiejska" — film. 15.20 PKF. 15.30 Dla dzieci: J. Wilkowski — ,,Współczesny, piękny świat" (,,Dzięcielinek i Świerzopski"). 16.15 ,,Tajemnica Azji" — film TVP (,,Przygody pana Michała"). 16.45 ,,Portrety" — Wojciech Bogusławski. 17.25 ,,Wielka gra" — teleturniej. 18.15 ,,Scena Monodram": J. Stwora — ,,Co jest za tym murem". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 ,,Biała Dama", której portret znajduje się w zamku kórnickim, zaprasza na koncert estradowy. 20.45 ,,Niedziela jak inne" — film fab. wł. 22.20 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek, 29.XII.**

16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: ,,Zwierzyniec". 17.35 ,,Echo stadionu". 17.50 Magazyn ITP. 18.00 ,,W górach" — film TVP. 18.15 ,,Spacerkiem po kinach". 18.40 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: A. Ostrowski — ,,Pamiętnik szubrawca". 22.05 ,,Dzień pierwszy" — program dokument. 22.35 Dziennik.

**Wtorek, 30.XII.**

9.00 ,,Teleferie". 10.05 ,,Pan Anatol szuka miliona" — film fab. pol. 11.20 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 ,,Na Wyspach Owczych" — film dok. duński. 17.05 Telewizyjny Ekran Młodych. 18.50 ,,Horyzonty". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Wyspa nieba" — rep. B. Szwarc-Bronikowskiego (,,Przez antypody"). 20.25 ,,Na ławce" — film fab. franc. 21.50 ,,Refleksje". 22.20 Dziennik.

**Środa, 31.XII.**

8.50 ,,Teleferie". 10.00 Dla dzieci: ,,Rewia muzyczna" (Kijów). 10.30 ,,Inspekcja pana Anatola" — film fab. pol. 12.05 Przerwa. 16.00 Program dnia. 16.05 Program tygodnia. 16.35 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: ,,XI Trójmecz Harcerski". 17.50 TV Kurier Warszawski. 18.05 ,,Symfonia" — XII program (,,Słuchamy i patrzymy'). 19.00 ,,Przeboje Telewizyjnego Ekranu Młodych". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Przemówienie Noworoczne. 20.20 ,,Co to za miasto" — program rozrywkowy. 21.30 ,,Telefon towarzyski" — film fab. USA. 23.10 ,,Zatrzymasz się kiedyś bez tchu" — program estradowy. 23.35 ,,Mimetyzm czyli zniknięcie Honoriusza Subrac" wg opowiadania G. Apollinaire'a. 23.55 Życzenia Noworoczne. 0.15 ,,Szopka Sylwestrowa". 1.15 ,,Minstrel show" — film ang. 2.00 ,,Aznavour w Olimpii" — film franc.

**Czwartek, 1.I.1970**

10.15 Program dnia. 10.20 ,,Bajka o carze Sałtanie" — film fab. radz. 11.45 Dziennik. 12.00 ,,Sport polski 1969 roku". 12.50 ,,Kontrasty i nastroje". 13.35 ,,Sylwetki roku". 13.45 TV Teatr Lalek: K. Jeżewska — ,,Chłop i diabeł" — widowisko lalkowe. 15.05 ,,Sylwetki roku". 15.15 ,,Lotnicy" — teleturniej. 16.05 ,,Sylwetki roku". 16.15 ,,Scena Monodram": A. Wowro — ,,Wowro — świątkarz Beskidzki". Teksty spisał — T. Seweryn. W roli wowry — W. Siemion. 17.10 ,,Sylwetki roku". 17.20 ,,Świat 69" — międzynarodowy przegląd roku. 18.00 ,,Sylwetki roku". 18.10 ,,Śnieg, rekiny, eukaliptusy" — rep. S. Szwarc-Bronikowskiego (,,Wyprawa Zosią"). 18.45 ,,Sylwetki roku". 18.55 ,,Jak powstali Skaldowie" — film TVP. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Sylwetki roku". 20.15 ,,Muzyka lekka, łatwa i przyjemna". 21.15 ,,Sylwetki roku". 21.25 ,,Miłość w Amsterdamie" — film fab. ang. 22.55 Magazyn Sportowy.

**Piątek, 2.I.**

9.00 ,,Teleferie". 10.05 Przerwa. 11.00 Film fabularny. 12.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: ,,Pół godziny dla rodziny". 17.20 ,,Wyprawy" — film. 17.50 TV Kurier Mazowiecki. 18.05 ,,Nie tylko dla pań". 18.25 Magazyn Medyczny. 18.55 ,,Gramy o telewizor" — teleturniej. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Azja — syn Tuhaj-Beja" — film TVP (,,Przygody pana Michała"). 20.35 Program publ. 21.05 Teatr TV: J. Sawiuk — ,,Ostatni rejs". 21.55 ,,To już 50 lat" (50-lecie TPD). 22.05 Dziennik.

**Sobota, 3.I.**

9.00 ,,Teleferie". 10.00 Przerwa. 10.45 ,,Bajka i fantastyka" (Leningrad). 11.30 ,,Osiodłać wiatr" — film fab. USA. 13.00 Przerwa. 14.20 Program dnia. 14.25 TV Kurs Rolniczy: ,,Prawidłowy wychów prosiąt". 15.00 Program tygodnia 15.20 Przerwa. 16.20 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: ,,Pół godziny dla rodziny". 17.20 ,,Muzyka tej ziemi" — film. 18.00 ,,Skarby gorących skał" — rep. S. Szwarc-Bronikowskiego (,Przez antypody"). 18.35 ,,Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 ,,Osiodłać wiatr" — film fab. USA. 21.50 Dziennik. 22.10 ,,Szopka Sylwestrowa — program rozrywkowy. 23.10 ,,Koncert Noworoczny" (Berlin).

## Памёр ГЛЕБКА

**У Мінску памёр на завал сэрца вядомы беларускі паэт Пятро Глебка. Нарадзіўся паэт 6 ліпеня 1905 года ў вёсцы Вялікая Уса, Мінскай вобласці, у сялянскай сям'і. Літаратурную дзейнасць П. Глебка пачаў у 1925 годзе. У гады вайны супрацоўнічаў у франтавым друку. Член КПСС. Пасля вайны працуе ў Акадэміі навук БССР. Некалькі год ён вёў навуковую працу ў Інстытуце мовазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Паэт узнагароджаны шматлікімі высокімі дзяржаўнымі ўзнагародамі.**

 



# ЭЛЕКТРОННЫ бухгалтар

Электроніка — сімвал сучаснасці. Кожны з нас сустракаецца з ёю штодзённа. Радыёпрыёмнік, тэлевізар — гэта электроніка. Яе першыя крокі. Вышэйшы ўзровень электронікі — матэматычныя электронныя вылічальныя машыны.

Шукаць іх не трэба далёка. Электронная вылічальная ўстаноўка працуе ў Беластоку. Дзейнічае тут цэлае прадпрыемства. Яго афіцыйная назва: Прадпрыемства электроннай вылічальнай тэхнікі, а ў скарачэнні — «ЗЭТО».

Дырэктар прадпрыемства, інжынер Вітальд Шышла, знаёміць мяне са сваім «каралеўствам» тэхнікі. На першы позірк здаецца, што нічога тут асаблівага не дзеецца. Працаўнікі, як у бальніцы, у белых халатах. Іх спраўныя пальцы хутка прыціскаюць гузікі, абазначаныя цыфрамі. Ідзе праграміраванне. Гэта, быццам падрыхтоўка ежы для наступных электронных установак. Лікі аўтаматычна ператвараюцца ў дзіркі, адпаведна размешчаныя на невялікім картончыку. Пасля картончыкі — шаблоны вандруюць на другія ўстаноўкі. Канчатковы вынік — доўгія калонкі зводачных цыфраў, пажаданы эфект, вырашэнне праблемы.

Калі трэба вырашыць больш складаную праблему, дзе неабходна прымяніць правілы вышэйшай матэматыкі, тады ўключаюць «электронны мозг» — аналітычную вылічальную электронную машыну — «Одра — 1103». Яна польскай прадукцыі. Прадстаўляе сабой апошняе слова нашай тэхнікі. Яна ў адну секунду праводзіць аж 7 тысяч матэматычных дзеянняў. Куды да яе чалавеку з яго абмежаванай спраўнасцю! З выгляду — гэта шэры, не надта ж вялікіх размераў, стальны шкафчык. І толькі каляровыя сігнальныя лампачкі напамінаюць, што гэта электронная ўстаноўка.

— Чым займаецца прадпрыемства «ЗЭТО»?



**Праверaныя карты ідуць да сарціроўшчыка, за якім сочыць К. Косіньскі. Хуткасць працы — 40 тысяч карт у гадзіну.**

— Нашае прадпрыемства, — паясняе дырэктар, — існуе ўсяго другі год. Не змаглі мы яшчэ разгарнуць усебаковай дзейнасці. Зараз праводзім рознага роду вылічальныя працы для фастаўскага камбіната, для беластоцкай энергетыкі, будаўляных і геадэзійных прадпрыемстваў. Гэтага, што мы тут робім, самі прадпрыемствы так спраўна, беспамылкова і хутка зрабіць не ў сілах. Для прыкладу возьмем «Фасты». Каб



**За спраўнасцю працы электронных установак сочаць механікі В. Кавалеўскі і Я. Пенкала.**

спраўна, эфектна і ашчадна дзейнічаў такі буйны камбінат, неабходна ведаць яго кіраўнікам: колькі ў іх на стане сыравіны, колькі якіх матэрыялаў трэба да планаванай прадукцыі, як распланаваць гэтыя матэрыялы на пасобныя цэхы. Такіх і іншых праблем ёсць шмат. Хуткую, штодзённую інфармацыю аб іх можа даць толькі электронная тэхніка.

— У якіх яшчэ галінах гаспадаркі Беласточчыны можа знайсці прымяненне ваша тэхніка?

— Практычна — у кожнай. Усё, што адносіцца да гаспадаркі, можна пераклaсці на мову лікаў. Каб атрымаць высокі ўраджай, неабходна прымяняць штучныя ўгнаенні. Але зямля ёсць розная па якасці, дык розныя дозы ўгнаенняў трэба даваць. Затым інакш трэба ўгнойваць зямлю, скажам, пасля бульбы, а інакш пасля жыта. Апрача гэтага, штучныя ўгнаенні таксама бываюць розныя. Як тады паступіць, каб дабіцца самага высокага ўраджаю? Хутка і спраўна дакладны адказ знойдзе электронная машына. І яшчэ магу вам падаць адзін прыклад. На Беласточчыне маем нейкіх 60 тысяч пастаўшчыкаў малака. Яны атрымоўваюць заплату не ад літра, а ад колькасці тлушчу. Пры дапамозе вылічальнай электроннай машыны можна шмат хутчэй і спраўней правесці неабходныя падлікі. Гавару пра тое нездарма, бо менавіта рыхтуемся да гэтага роду вылічэнняў для патрэб сельскай гаспадаркі.

**В. Рудчык**
**Фота Цаф — Сянько**



**А вось праграмная табліца табулятара, на якой у 4200 кантактных гнёздах запісана «памяць» табулятара. Абслугоўвае яе К. Рыбаловіч».**



**Гэта так званы табулятар — машына, якая састаўляе гатовыя падлікі. Абслугоўвае яе Р. Мялхоўскі.**



**Секцыя лёгкіх машын, дзе лікі з розных дакументаў ператвараюцца ў «дзіркі» адпаведна размешчаныя на спецыяльных картачках-шаблонах. На здымку: Р. Куроўская (першая) і М. Шпайхлер працуюць на праверачных машынах.**

# БЕЛАРУСКІ фальклор на сцэну

Бельскі аддзел беларускага таварыства выступіў з прапановаю арганізавання фальклорных калектываў на базе народнага, мясцовага, нікім не запісанага рэпертуару.

Нам здаецца, што гэта вельмі каштоўная ініцыятыва, і таму заахвочваем іншыя аддзелы да арганізавання падобнага конкурсу супольна з іншымі арганізацыямі.

У сувязі з гэтым друкуем праграму і правілы конкурсу, запачаткаванага ўжо ў Бельскім павеце.

## ПРАГРАМА СТВАРЭННЯ І ВЯДЗЕННЯ САМАДЗЕЙНЫХ МАСТАЦКІХ ГУРТКОЎ ФАЛЬКЛОРНАГА ХАРАКТАРУ.

Самадзейным фальклорным калектывам з'яўляецца калектыў, які ў сваёй працы абапіраецца на матывах данага рэгіёну, данага асяроддзя. Найбольшым аўтарытэтам у кожнай вёсцы карыстаюцца людзі старэйшыя, гэта яны клапатліва берагуць спадчыну папярэдніх пакаленняў, абараняюць заўзята ўсё тое, што даўнейшае. Да сённяшняга дня захаваліся яшчэ некаторыя песні, народныя танцы, апавяданні, народныя гутаркі, народныя абрады, як вяселлі, дажынкі, вечарынкі пры кудзелі, вечарынкі для маладых і шмат іншых народных матываў, якія мы можам сёння зусім выразна перанесці ў фальклорны калектыў. Менавіта сярод людзей старэйшых трэба шукаць рэпертуару і ідэй для працы калектыву. Калектывам павінен кіраваць настаўнік з мясцовай школы, які павінен вызначыць напрамак працы калектыву. Задумы двух-трох асоб, спалучаныя ў цэласць, афармленыя і рэжысераваныя настаўнікам, створаць фальклорны калектыў, які будзе падтрымліваць народныя традыцыі данага рэгіёну.

Пераходзім у сваю чаргу да народных убораў; і ў гэтай справе таксама трэба звярнуцца да людзей старэйшых, якія памятаюць, у якой вопратцы адбываліся тыя ці іншыя народныя абрады. У некаторых мясцовасцях да сённяшняга дня носяць яшчэ такую вопратку, і можна яе выкарыстаць для фальклорнага калектыву ў данай мясцовасці.

Няма патрэбы даводзіць, чаму такія калектывы павінны ўзнікнуць на нашай тэрыторыі. Фальклор, глыбока закаранелы ў нашых асяроддзях, ніяк не адлюстроўваецца знешне; апрача жыхароў данай мясцовасці ніхто не ведае, што на данай тэрыторыі існуюць такія ці іншыя народныя матывы.

У сувязі з тым, што Аддзелам асветы і культуры і павятовым праўленнем БГКТ быў аб'яўлены конкурс на лепшы фальклорны калектыў, варта зрабіць распазнанне ў сваёй мясцовасці і арганізаваць такі калектыў. У месяцы маі 1970 г. будзе арганізаваны павятовы агляд такіх калектываў. Інструктарскую дапамогу гэткія калектывы могуць атрымаць у парадні ПДК у Бельску Падляшскім.

## ПРАВІЛЫ КОНКУРСУ НА ЛЕПШЫ ФАЛЬКЛОРНЫ КАЛЕКТЫЎ

§ 1. Арганізатарамі конкурсу з'яўляюцца Аддзел асветы і культуры Прэзідыума павятовай рады нарадовай і павятовае праўленне БГКТ у Бельску Падляшскім супольна з павятовым праўленнем ЗМВ (Саюза вясковай моладзі) і ПДК.

§ 2. Мэтай конкурсу з'яўляецца папулярызацыя народнага фальклору ў шырокіх колах грамадскасці, а асабліва сярод моладзі і самадзейнага мастацкага руху.

§ 3. Сакратарыят конкурсу знаходзіцца ў павятовым праўленні БГКТ.

§ 4. Конкурс складаецца з двух этапаў:

а) мясцовыя элімінацыі;

б) павятовыя элімінацыі.

§ 5. У конкурсе могуць браць удзел усе асобы, якім споўнілася 14 год.

§ 6. Кожны фальклорны калектыў павінен падрыхтаваць праграму прынамсі на 15—20 мінут.

§ 7. Мясцовыя элімінацыі праводзяць гурткі БГКТ супольна з іншымі мясцовымі арганізацыямі да канца красавіка 1970 г.

§ 8. Павятовыя элімінацыі праводзіць павятовае праўленне БГКТ супольна з арганізацыямі, успомненымі ў § 1.

§ 9. Усе калектывы, якія прымаюць удзел у павятовых элімінацыях, атрымаюць дыпломы удзельніка, апрача таго камісія выбірае 5 найлепшых калектываў для павятовых узнагарод.

§ 10. Кошты павятовых элімінацый пакрываюць іх арганізатары.

## ЛЕНІНСКІ ТУРНІР У ГАЙНАЎЦЫ

Гайнаўскі павет ужо поўнай парай прыступіў да турніру ведаў пад загалоўкам «Уладзімір Ленін». Патранат над ім прыняў тут павятовы камітэт партыі. Выслаў ён пісьмы да ўсіх грамадскіх камітэтаў партыі і партыйных арганізацый, каб заняліся арганізацыяй аглядаў І-шай ступені, г. зн. у вёсках, фабрыках і ўстановах.

Арганізацыйны камітэт турніру, над якім старшынствуе Яніна Якубовіч (кіраўнік павятовай бібліятэкі ў Гайнаўцы) пастанавіў, што ўжо ў першым этапе будуць прызнавацца ўзнагароды. Таксама ў павятовых аглядах будуць тры галоўныя ўзнагароды.

Павятовая бібліятэка стараецца забяспечыць усе грамадскія бібліятэкі і ўсіх ахвотных патрэбнымі кніжкамі да індывідуальнага выбару кожнага ўдзельніка турніру).

Агляды ў вёсцы і ў самой Гайнаўцы будуць суправаджаць мастацкія гурткі з песнямі, танцамі і жывым словам.

(вл)

## БУНТ ЦВЁРДАХЛЕБНІКАЎ

Наракаюць у Міхалове на чэрствы хлеб, булкі. Ну, прэзас новы гандлёвы цяпер у ГС-е тутэйшы, і ўсе сказалі: добра будзе. І фактычна, здарыўся амаль цуд, бо паявіліся ў краме свежыя булкі — хлеб нават перад сёмай гадзінай раніцы. Пякарня, не прызвычаеная да такой дбайнасці пра жываты міхалоўскія, цяжка стагнала пад энергічным ботам новага прэзаса гандлёвага, Матафея.

Пякарня перадумала ўсе способы на прэзаса: збунтавацца супраць яго, дык жа, хвароба, выкіне з работы, ды яшчэ з воўчым білетам пусціць; нагаварыць можна было б яму, што печкі ранюсенька не хочуць грэцца, дык жа хвароба, не паверыць і прыйдзе правяраць. Во, знайшоўся способ: імяніны наладзіць, скажам, у пякарні да белага дня — заўсёды імя патрэбнае знойдзецца. Так і зрабілі.

І пякарня зноў зажыла прыпяваючы па-старому. А бунт міхалаўчан лёгка падавіць. Крычаць, свежаніны хочам! А іх закрычаць трэба ды напалохаць, што калі будуць булкі, хлеб свежымі, дык не ўсім хопіць іх. Раскупяць, во! А так хлеб, хаця і чэрствы, але заўсёды маем, голад нястрашны Міхалову. Што, крычаць, гэта не хлеб!? А, што гэта, вунь, на паліцах, га? Каменні?! Укусіць можна, цешцеся, што яшчэ можна ўкусіць.

І так, памалу-памаленьку пякарня падавіла міхалоўскі бунт цвёрдахлебнікаў. Зрэшты, голад не цётка.

(ся)

## УВАГА, ЧЫТАЧЫ!

### «Каляндар «Нівы»

**У наступным нумары змесцім традыцыйны ўжо «Каляндар Нівы» на 1970 год. У гэтым жа нумары надрукуем таксама «Юбілеі 1970 года», дзе асаблівая ўвага будзе звернута на юбілеі беларускіх пісьменнікаў (важна для настаўнікаў беларускіх школ і гурткоў БГКТ). І навіна: пасля доўгага перапынку з'явіцца «Навагодняя батлейка»!**



 

# ЗІМА ГАРЦЭРАЎ

Асенне-зімовы перыяд — гэта быццам бы іншая галіна ў працы гарцэрства. Спецыфіка асенне-зімовага перыяду заключаецца ў тым, што цяпер прыступаюць да працы пасля пэўнага адпачынку са зрэгенераванымі сіламі, новымі ініцыятывамі. Зіма — гэта шмат радасці і супольных намаганняў **у калектыве,** з якім дзіця або малады чалавек прабывае найдаўжэй, з класам, застэмпам.

— Як будзе выглядаць зіма гарцэраў Беластоцкага павета? — такое пытанне мы паставілі, наведваючы Камэнду гуфца на Беластоцкі павет. Тут мы многа пачулі.

Асноўным заданнем сёлеташняй зімы нашых гарцэраў, як і наогул гарцэрства, будзе акцыя «Іскра — 1970», акцыя, звязаная са святкаваннем 100-ай гадавіны з дня нараджэння Ўладзіміра Леніна. Зразумела, мы маем на думцы не ўсе з тым звязаныя заданні, але перад усім такое, як: **«Чын маладых суботнікаў».** Што абазначае слова «суботнік», не трэба выясняць старэйшым, а гарцэры і так ведаюць, у чым справа. У сувязі з зімой шматлікія дружыны забавязаліся дапамагчы пры пабудове каткоў, дарожак для катання на санках. Паколькі такія пачынанні гарцэраў служаць не толькі ўміленню часу самім дзецям, але і адцягваюць іх ад небяспечных зімовых гульняў на сажалках і азёрах, а таксама на вуліцах, ёсць дасканалая аказія, каб да ініцыятывы дзяцей актыўна ўключыліся старэйшыя, а асабліва пажарнікі.

Гарцэрскія дружыны будуць ствараць **патрулі зімовай дапамогі.** Іх заданне — гэта не толькі дапамога пры ачышчанні ад снегу дарог, але і апека над дзікай жывёлінай. Адной з цікавейшых форм працы гарцэрскіх патрулёў зімовай дапамогі з'яўляецца арганізаванне ёлак звярам і птушкам. Гарцэры выходзяць у лес, забіраючы з сабой корм. Тое, што ўдасца, развешваюць на дрэвах, а іншы корм пакідаюць пад дрэвам.

Гарцэры з дружыны пры пластычным тэхнікуме ў Супраслі запланавалі конкурс разьбы па снегу. Такім чынам, дружына будзе праводзіць заняткі на фоне прыроды. У часе конкурсу гарцэры будуць выконваць фотаздымкі прац, з якіх потым зробяць фотавыстаўку.

Зіма — гэта перыяд карнавальных баляў. Традыцыйным звычаем будуць арганізоўваць іх гарцэрскія дружыны. Разам з тым, асабліва ў вясковых дружынах, распаўсюдзілася акцыя кулігаў. Напрыклад, дружына з **Альмонтаў** у мінулым годзе арганізавала іх аж 27.

Трэба вельмі пахваліць ініцыятыву некаторых дружын Беластоцкага павета за арганізацыю ёлак у лесе, на жывым дрэўку ёлкі, без высякання яго.

Асабліва цікавымі могуць быць **«вечары народных звычаяў»** ці **«вечары гульняў нашых бацькоў»** або **«імяніны ў калегі».** Арганізацыя такіх вечарын — гэта не толькі азнаямленне з мінулым, але і дасканалая форма ўцягвання бацькоў да гарцэрскай працы. У мінулым годзе такую форму працы правёдзіў застэмп **у Санніках.** Свае сустрэчы, што раз то ў іншай хаце, назвалі яны «вечарынкамі», а запрашалі на іх не толькі сваіх бацькоў, але і суседзяў.

Калі ўжо пры бацьках, дык неабходна падкрэсліць, што яны ў **Альмонтах, Баршчэве, Новым Александрове, Санніках** вельмі актыўна ўключаюцца да заняткаў гарцэрства.

Але гарцэры Беластоцкага павета маюць і цяжкасці. Першая — гэта тое, што некаторыя кіраўнікі школ на час канікул часта замыкаюць спартыўныя прылады (лыжы, санкі, канькі) у школе, і, такім чынам, дзеці не маюць чым гуляць, а другая цяжкасць — гэта наогул малая колькасць гэтых прылад у школах.

Да Камэнды гуфца ЗГП можна мець толькі прэтэнзію, што яна дагэтуль не зрабіла фармальнага паразумення з Камэндай пажарнікаў у справе дапамогі пажарнікаў пры пабудове каткоў для дружын ЗГП. Напэўна, у многім, аблягчыла б гэта працу гарцэраў.

А. К.



# Размовы ў дубінскай школе

У дубінскай школе трапіў я якраз на пасяджэнне педагагічнай рады школы. Кіраўнік школы Яўгень Гарустовіч ветліва запрашае зайсці, ды паслухаць. Заходжу.

Дыскусія ідзе аб рэалізацыі ідэйна-выхаваўчых заданняў школы. Кіраўнік школы расказвае аб шэрагу розных мерапрыемстваў, заданнем якіх з'яўляецца ідэйнае выхаванне моладзі. Сустрэчы з мясцовымі дзеячамі ў сувязі з 25-годдзем Народнай Польшчы, урачыстыя зборы над магіламі загінуўшых салдат і партызанаў, сустрэчы з былымі партызанамі, кінакарціны аб барацьбе за народную ўладу — вось некаторыя з гэтых цікавых і карысных форм выхавання моладзі. Далей рэч ідзе аб конкурсе для школьнікаў на тэму: «Мая вёска і мая ваколіца ў 25-годдзі ПНР». У дыскусіі настаўнікі разважаюць, як пагадзіць выхаваўчыя заданні з заданнямі дыдактычнымі, звяртаюць увагу на недастасаванне некаторых падручнікаў да новых заданняў школы.

Застаемся ў зале з настаўніцай Оляй Гарустовіч, каб пагутарыць аб праблемах навучання беларускай мовы. Оля Гарустовіч шмат гадоў выкладае беларускую мову, а апрача таго, зараз з'яўляецца яна інструктарам метадычнага цэнтра беларускай мовы ў Гайнаўскім павеце.

Як пагадзіць ідэйна-выхаваўчыя заданні школы з заданнямі навучання беларускай мовы? Ці не выступаюць тут нейкія супярэчнасці?

Седзячы ў дубінскай школе і разважаючы на здаровы розум, супярэчнасцей такіх не толькі няма, але выступае поўная гармонія і ўзаемнае папаўненне зместу ідэйнага выхавання і навучання беларускай мовы. Вось хаця б для прыкладу зала, у якой вядзем сваю размову. На сценах насценгазеткі пераважна на беларускай мове. Насценгазетка: «Жыццё ў БССР», фотагазетка: «Якуб Колас», паказваючыя жыццёвы шлях пісьменніка, пастаянны куток: ««Ніва» паведамляе», у якім вісяць выразкі з «Нівы» і «Зоркі». Шафа з надпісам: «Скарбы нашай ваколіцы», а ў ёй прыгожа выэкспанаваныя мясцовыя народныя ручнікі, дываны, фрагменты мастацкай тканіны, народныя гаршчкі. Як усё гэта пасуе да ўспомненага конкурсу. «Мая вёска і мая ваколіца ў 25-годдзі ПНР» і да гэтых сустрэч з мясцовымі дзеячамі. Заданне ідэйнага выхавання, між іншым, — прывіваць моладзі пачуццё патрыятызму, прывязанасці да «роднага», пачуццё грамадзянскай годнасці і адказнасці. У беларускім асяроддзі на ўроках беларускай мовы, як нідзе, больш можна рэалізаваць гэты выхаваўчы змест.

Гэта аднак тэорыя. У практыцы настаўніка абавязвае перш за ўсё рэалізаванне гэтак званай праграмы.

Сяброўка Оля Гарустовіч адкрывае праграму і пачынае знаёміць мяне з яе зместам. Сыплюцца разумныя, цяжкія граматычныя тэрміны, якія некаторых з нас калісьці вучылі мудрыя прафесары на ўніверсітэце. Указваюцца заданні, якія з'яўляюцца простым паўтарэннем заданняў, рэалізаваных на ўроках польскай мовы: карыстанне бібліятэкамі і бібліятэчнымі каталогамі, радыё, тэлевізіяй, кінафільмамі.

— Нехта, — гаворыць сяброўка Оля, — хто складаў праграму, забыў неяк, што ў нас няма ні бібліятэк з каталогамі на беларускай мове, ні радыёперадач для школьнікаў на беларускай мове, ні тым больш тэлевізійных праграм ці кінафільмаў.

Забыў таксама гэты «нехта» — накладаючы на настаўнікаў беларускай мовы абавязак навучыць дзяцей весці дзелавыя паперы — што ў нас не пішуць на беларускай мове заяў і не вядуць судовых актаў, не высылаюць тэлеграмаў і не пішуць пратаколаў. Ды што найгорш, забыліся аўтары праграмы аб найважнейшым: указаць настаўніку, як навучыць беларускіх дзяцей пашаны да сваёй мовы і традыцыі, ды да саміх сябе.

Коратка кажучы, пара было б зрабіць вывады з таго факту, што навучанне беларускай мовы, якое мае вялікае выхаваўчае значэнне і аніякага значэння практычнага, знаходзіцца ў спецыфічным становішчы і павінна трактавацца інакш, чымсьці навучанне польскай мовы, павінна разглядацца ў кантэксце цэласці выхаваўчых праблем беларускай моладзі ў Польшчы.

**У. Паўлючук**




## БЯЗДАРНАСЦЬ + АБЫЯКАВАСЦЬ

Вёску Аўгустова нуртуюць тры справы. Першая справа: бяздарнасць павятовых улад Бельска. У чым бяздарнасць — зараз выяснім. У Аўгустове, пасля ліквідацыі грамадскай рады, застаўся салідны мураваны будынак, будаваны чынам рук аўгустоўскіх людзей. Павятовая рада захацела прадаць парожні будынак, але аўгустаўчане сказалі: стоп, не туды дарога! Наша гэта праца і належыцца яна нам! Адбыўся папяровы бой паміж Аўгустовам і Бельскам, і Беласток рассудзіў справядліва. Значыць, на карысць вёскі. Адразу ўзняўся вялікі рух, бельскі «Рух» абсталяваў тут клуб (па просьбе аўгустаўчан), паабяцаў нават і датрымаў слова, у справе куплі некаторых мэблевых вырабаў мясцовай бібліятэцы, якую трэба перавесці са школьнага будынка, што ў гуляйполі, у будынак пасляpадаўскі, прасторны, і пасярэдзіне вёскі амаль. Усім аднолькава блізка і далёка будзе да кніжкі.

Уся справа ў ЗАМКАХ, якімі патрэба будзе замыкаць нанач бібліятэку. Гэтая замкавая праблемка цягнецца смешна доўга, мо з год. Выглядае так, як бы хапіла на кароўку, але не хапіла на вяроўку. Аўгустаўчане лічаць, зрэшты цалкам слушна, што не на тое выбіралі сваю ўладу, каб яшчэ і на замкі рабіць вясковую складчыну грошай. І на майстра з 50 злотых.

Другая справа: тая ж самая бяздарнасць плюс абыякавасць. А менавіта — некаторыя гаспадары ў Аўгустове хочуць загаспадарыць свае сенажаці на свой кошт машынамі сельскагаспадарчага гуртка. Так сказаць, хочуць прыспяшыць разбудаванне сваёй кармавой базы, каб сельскагаспадарчая прадукцыя была большай. Хочуць толькі аднаго: насення траў па танных цэнах. Зрэшты, цэлая справа датычыць дробных сенажацяў, якія, невядома калі, былі б загаспадараваны меліярацыйнай фірмай.

Улады Бельска не надта ўмелі выйсці насустрач гэтай цікавай ініцыятыве аўгустоўскіх гаспадароў. Уся справа, так сказаць, павісла.

У сувязі з гэтай справай «Ніва» звярнулася да кіраўніка ваяводскага Аддзела сельскай гаспадаркі, які выясніў:

— Ініцыятыва аўгустоўскіх гаспадароў цікавая і мы дагэтуль не мелі дачынення з чымсьці падобным. Справу гэту разгледзім з сімпатыяй. Трэба толькі, каб гаспадары ў сваіх прапановах аб цэнах насення выступілі арганізавана, ад імя сельскагаспадарчага гуртка, да якога належаць (або хочуць належыць). Сваё выступленне павінны яны кіраваць пры пасрэдніцтве дырэктара меліярацыйнага раёну, Васіля Бажко. Я паведамлю ў Бельск аб гэтай справе.

Столькі кіраўнік. «Ніва» гаварыла таксама і з беластоцкаю Управаю водных меліярацый, дзе выяснілі амаль гэтаксама, з тым, што нараілі пасрэдніцтва Юзэфа Іваноўскага, кіраўніка бельскага Інспектарата меліярацый.

Парадак ёсць парадак. Бельск на тое, каб памагаць людзям, а не аднеквацца ды апраўдвацца.

І трэцяя аўгустоўская справа — гэта тратуары. Вёска хоча мець тратуары. Стадыён ужо мае, за 120 тота-лётавых тысяч. Ды не можна ніяк дапрасіцца, каб Бельск вызначыў межы дзяржаўнай дарогі, якая з'яўляецца адначасова вуліцай. Дзякуючы такому вызначэнню, было б вядома, хто з гаспадароў і колькі мае ўпарадкаваць свайго прыплоцця. І, урэшце, было б вядома, дзе і якой шырыні тратуар можна рабіць. Рабіць чынам!

Няўжо і на гэтым не залежыць бельскім уладам. А людзі ж столькі хочуць рабіць сваім коштам, ды ўсё разбіваецца аб ланцуг няяснасцей, валакітных пісанняў, недагаворак і замоўчванняў. Ад усяго таго можна або заснуць, або дастаць белай гарачкі.

(ся)

# БГКТ

(Працяг са стар. 1)

Скурат, Марыя Макаль, Яўгень Ражкевіч, Міхась Тэляшэўскі і Іван Дудзік.

Старшыня рэвізійнай камісіі Хведар Садоўскі будзе пакліканы да ўлад павятовага беластоцкага аддзела і таму адкліканы з рэвізійнай камісіі. Да рэвізійнай камісіі гарадскога аддзела выбраны Сцяпан Зенюк.

Пасля адбылося пасяджэнне праўлення аддзела, якое пашырыла склад прэзідыума да 9 асоб і выбрала новы прэзідыум. І так старшынёю аддзела выбраны — Іван Чыквін, намеснік старшыні — Віктар Лаўрэшук, сакратаром — Марыся Макаль. Членамі праўлення з'яўляюцца: Уладзімір Куршэль, Іван Стрышко, Уладзімір Навіцкі, Васіль Баршчэўскі, Сяргей Плева і Люба Сегень. Рэвізійная камісія выбрала на старшыню Сцяпана Зенюка.

(мх)




1969 год праходзіў у нас пад знакам 25-годдзя Народнай Польшчы. Юбілей сваёй краіны ўвесь польскі народ, а ў тым ліку і беларускае насельніцтва адзначала самаахвярнай працай. Таксама нашая амаль сямітысячная арганізацыя — беларускае грамадска-культурнае таварыства ўключалася да ўсіх мерапрыемстваў, якія ў гэтым годзе адбываліся. Многія актывісты БГКТ і гурткі БГКТ былі ініцыятарамі многіх пачынанняў, а ў тым ліку і арганізатарамі грамадскіх чынаў. Успомнім тут хаця некалькі фактаў. Старшыня сямяціцкага аддзела БГКТ Анатоль Мартыновіч быў ініцыятарам і арганізатарам пабудовы ў Вілінаве двухкіламетровага бруку і дома культуры. Грамадскай працы больш як на 1000 злотых прыпадае ў Вілінаве на кожную статыстычную асобу. Гурткі БГКТ супольна з іншымі арганізацыямі ў Спічках, Рагачах, Малінніках, Семяноўцы, Крывяцічах, Слоі, Новым Востраве і ў многіх іншых мясцовасцях, а нават члены БГКТ у Гданьску грамадскім чынам рэмантавалі дарогі, будавалі рамізы і святліцы.

Звенні Беларускага таварыства з нагоды юбілею нашай дзяржавы арганізавалі 83 даклады, 44 гутаркі і 28 спатканняў з людзьмі 25-годдзя, якія прычыніліся да станаўлення народнай улады і якія зараз займаюць адказныя дзяржаўныя пасады.

Літаратары з аб'яднання «Белавежа», якое існуе пры Галоўным праўленні БГКТ, мелі больш сарака аўтарскіх спатканняў у беларускім асяроддзі. Прадстаўляючы насельніцтву свае творы, яны адначасова падкрэслівалі дасягненні беларусаў у Народнай Польшчы, якая сталася для нас сапраўднай айчынай.

З нагоды 25-годдзя нашай краіны аддзелы БГКТ супольна з іншымі арганізацыямі арганізавалі 8 фестынаў, а ў праграме амаль кожнага фестына былі даклад і выступленні аматарскіх калектываў, «Згадуй-згадулі» на тэму 25-годдзя ПНР і іншыя мерапрыемствы. На фестыны збіралася заўсёды вельмі многа людзей, асабліва моладзі. І кожны з фестынаў быў свайго роду маніфестацыяй удзячнасці беларускага асяроддзя для сваёй краіны.

Выхаваўчую ролю спаўнялі таксама канцэрты эстрады ГП «Лявоніха», якіх адбылося ў бягучым годзе каля 200, шмат выступленняў далі харавыя калектывы БГКТ з Гарадка, Бельска і Гайнаўкі, а таксама аматарскія калектывы з многіх гурткоў БГКТ.

Пад лозунгам «25 год Народнай Польшчы» былі арганізаваны ў нас у бягучым годзе ў паасобных аддзелах агляды аматарскіх калектываў, а пасля ваяводскі агляд у Гайнаўцы.

1969 год быў карысным годам для беларускага таварыства. Многа добрых спраў выпала на яго долю. Амаль разам з выбарчай кампаніяй у Сейм і рады нарадовыя праходзіла справаздачна-выбарчая кампанія ў беларускім таварыстве, якая ўзмоцніла арганізацыйна нашыя звенні. Справаздачна-выбарчыя сходы ў гуртках, справаздачна-выбарчыя канферэнцыі ў аддзелах, а пасля з'езд БГКТ унеслі многа ажыўлення ў нашу арганізацыю. Пастановы V з'езду БГКТ забавязваюць усе нашыя звенні да яшчэ лепшай, да яшчэ больш плённай дзейнасці. І нашыя звенні шукаюць і знаходзяць лепшыя формы кіравання, якія адпавядаюць задачам сённяшняга дня.

Юбілейны год 1969 унёс шмат новага, карыснага для нашай арганізацыі. Да гэтага новага трэба аднесці: агляд аматарскіх калектываў нацыянальных меншасцей Беласточчыны, дзе выступалі і іншыя самадзейнікі. Упершыню ў гэтым годзе была падрыхтавана вялікая тэлевізійная перадача аб беларусах, у тым ліку і аб БГКТ пад загалоўкам «Там дзе танцуюць Лявоніху». У гэтым

(Працяг са стар. 1)

## Служыць сацыялістычнай інтэграцыі

піла да міністэрства. Адносна курсаў у Мінску Куратарыя лічыць, што кіраўнікі школ павінны тыпаваць туды ў першую чаргу настаўнікаў, якія атрымліваюць найслабейшыя дыдактычныя вынікі.

Даклад шмат месца прысвяціў справам навуковых дапаможнікаў і працы школьных бібліятэк, а таксама справе падручнікаў да навучання беларускай мовы і роднай гісторыі.

Асабліваe месца заняла справа ідэйна-выхаваўчай працы школ. — Як разумець праблему патрыятычнага выхавання ў беларускіх школах? — ставіў пытанне дакладчык і даваў адказ. — У школьнай працы трэба экспанаваць тры элементы: разуменне нашай рэчаіснасці, гатоўнасць удзельнічаць у рэалізацыі сацыялістычнай будучыні нашага народа і пачуццё сувязі з нацыянальным мінулым. Моладзь павінна вучыцца ўласціва ацэньваць гісторыю польскага і беларускага народаў. Такое навучанне беларускай гісторыі павінна служыць сацыялістычнай інтэграцыі народа.

У дыскусіі выступілі: **А. Харкевіч, А. Карпюк, І. Суліма, Ю. Навіцкі, М. Гайдук, Я. Зенюк, Ст. Янкоўскі і В. Авер.**

І. Суліма, кіраўнік пачатковай школы № 3 у Бельску, сцвердзіў, між іншым, што ў яго школе наглядаецца павелічэнне колькасці вучняў з 242 (пяць год таму назад) да 437 зараз і што 58 вучняў польскай нацыянальнасці вывучае добраахвотна беларускую мову.

Іншыя выступаючыя звярталі ўвагу на цяжкасці, звязаныя з рэалізацыяй праграмы навучання, з недахопам патрэбнай літаратуры і апрацоўкай новых падручнікаў.

Прадстаўнік Мін. асветы Ст. Янкоўскі, паінфармаваў прысутных, што Мін. асветы даручыла ПЗВС апрацаваць і выдаць падручнік граматыкі бел. мовы для класаў V—VII. Незалежна ад гэтага, у выдаваных для паасобных класаў чытанках будзе змяшчацца граматычны матэрыял. Сказаў ён, што справа падрыхтоўкі настаўнікаў беларускай мовы будзе вырашана яшчэ ў гэтым годзе. Шмат месца ў сваім выступленні візітатар Ст. Янкоўскі прысвяціў ролі настаўніка ў сваім асяроддзі На заканчэнне дыскусіі з абшырнай прамовай выступіў кіраўнік Аддзела прапаганды ВК ПАРП В. Авер. Сказаў ён, што асноўнае заданне школы — гэта як найлепш вучыць і выхоўваць. Гаворачы аб культурнай і асветнай дзейнасці сярод нацыянальных меншасцей, сцвердзіў, што наглядаецца тут аб'ектыўны працэс культурнай інтэграцыі. Становішча нашай партыі і народнай улады такое, каб гэтага працэсу ні гамаваць ні прыспяшаць. Лічым, — сказаў В. Авер, — што навучанне беларускай мовы павінна быць пастаўлена на як найвышэйшым узроўні і павінна быць звязана з прагрэсіўнымі традыцыямі польскага і беларускага народаў.

Нараду падсумаваў віцэ-куратар Ст. Роман. (ак)

годзе ўтварыўся па-за Беласточчынай, у Гданьску аддзел БГКТ, які паспяхова разгортвае сваю дзейнасць сярод гданьскіх беларусаў. У гэтым годзе па ініцыятыве БГКТ Куратория асветы пры беластоцкім метадычным цэнтры паклікала аддзел беларускага школьніцтва, ад якога мы многа спадзяемся. Па ініцыятыве БГКТ супольна з Куратарыяй упершыню была склікана канферэнцыя кіраўнікоў школ, у якіх выкладаецца беларуская мова, (а такіх школ ёсць 164). Упершыню у БГКТ створана выдавецкая камісія, а таксама этнаграфічная камісія, а бельскі аддзел БГКТ супольна з Аддзелам культуры, павятовым домам культуры і павятовым праўленнем Саюза сялянскай моладзі аб'явіў фальклорны конкурс, і некалькімі нарадамі, скліканымі з гэтай мэтай, пабудзіў гурткі БГКТ і настаўнікаў да падрыхтоўкі мясцовага фальклору на сцэну.

У гэтым годзе БГКТ навязала цесны кантакт з ВП ЗМВ-у і падпісала дагавор аб супрацоўніцтве. У гэтым годзе выдавецтва БГКТ пабагацела яшчэ на адну кніжку, бо выдала творы Сакрата Яновіча. Падрыхтаваны таксама да друку зборнік вершаў Івана Чыквіна. Неўзабаве выйдзе з друку беларускі каляндар на 1970 год і зборнік сцэнічных твораў.

1969 год быў добрым годам і мы будзем успамінаць яго добрым словам.

**М. Хмялеўскі**



Зубны лекар Галена Яроцкая.



Фельчар Адольф Дзядзёлка, кіраўнік суполкі.
Фота — Р. Сянько, ЦАФ.

## Суполка здароўя ў Юшкавым Грудзе

Спулдзельня здароўя ў Юшкавым Грудзе з'яўляецца сапраўднай суполкай аховы здароўя. Да гэтай суполкі запісалася 328 асоб, з чаго толькі 102 асобы па-сапраўднаму пераканаsuccessны ў сэнсе такой суполкі. Рэшта, відаць, яшчэ думае, думае, думае... Вядома, прыналежнасць каштуе. Але ці варта думаць аб тым, што важнейшае: грошы ці здароўе? Здаецца, нават смешна раздумваць над тым. Аднак чалавек яшчэ большыя дзівы разважае.

Суполка ўзнікла першага красавіка гэтага года. У гэты дзень жартаў нарадзілася цалкам сур'ёзная ініцыятыва. Зубны лекар прымае тры разы ў тыдзень: у аўторак, чацвер і суботу. Медычны фельчар на месцы.

Адразу трэба сказаць, што няшмат такіх суполак на нашай Беласточчыне. І за гэта трэба хваліць, бадай, перш за ўсё мясцовых светлых людзей. (ся)

# ЦЯЖАР ЗЯМЛІ

Зямля з'яўляецца багаццем, сродкам жыцця, апорай і гарантыяй гаспадара. Гэта праўда. Але гэта праўда апраўдвае сябе толькі тады, калі гаспадар поўны сіл і здольны да працы. У выпадку, калі ўласнікам з'яўляецца няздольны да гаспадаравання старэча, зямля становіцца нязносным цяжарам.

Няздольных да працы старэчаў штораз больш у вёсцы. Вёска наша старэецца — гэта ўсім вядома. Старыя ўласнікі зямлі не выконваюць належна сваіх абавязкаў, не выплачваюць падаткаў. Усё гэта адбіваецца адмоўна на гаспадарцы ў грамадзе, на гаспадарчым разліку мясцовых улад. Зямля становіцца цяжарам не толькі для паасобных пастарэўшых гаспадароў, але і для ўсёй грамады. А гэта ўжо вельмі дрэнна. Гэта ж багацце, з якога жыве ўся краіна.

Дзяржаўныя пастановы стварылі магчымасць адпаведна вырашыць праблему гаспадарак, гаспадары якіх ужо няздольныя да працы. Гэтай магчымасцю з'яўляецца перадача гаспадарак дзяржаве ў замен за пенсію. Зямля, перададзеная дзяржаве, павінна аднак быць загаспадаравана. Загаспадараваць яе могуць ПГР-ы або прадукцыйныя спулдзельні. Але адзін і другі тып гаспадаркі ў нашых паветах даволі рэдкі і дзяржаўнай зямлёю, уласна кажучы, не вельмі ёсць каму заняцца.

Таму і пераймание зямлі ад няздольных да працы ўласнікаў ідзе вельмі памалу. А ў кожным выпадку колькасць гаспадарак, перайшоўшы ва ўласнасць дзяржавы, вельмі малая ў параўнанні з колькасцю гаспадароў, якія выяўляюць ахвоту перадаць гаспадарку дзяржаве. Так, напрыклад, у 1968 годзе ва ўсім ваяводстве заявы з ахвотаю перадаць зямлю дзяржаве склала 744 гаспадароў. З гэтага ліку мясцовыя ўлады выявілі згоду на перадачу гаспадарак у 166 выпадках.

Чаму так многа адмоўных адказаў гаспадарам, якія хочуць перадаць сваю зямлю ва ўласнасць дзяржаве? Найбольш, бо аж 177 адмоўных адказаў, атрымалі гаспадары з прычыны немагчымасці загаспадаравання зямлі дзяржаўнымі ці спулдзельчымі адзінкамі. Гаворачы інакш і больш зразумела, улады пераймаюць зямлю тады, калі можа яе загаспадараваць нейкі ПГР або прадукцыйная спулдзельня. Калі такіх магчымасцей няма, гаспадарку на кошт дзяржавы пераймаюць у вельмі рэдкіх выпадках — толькі тады, калі старыя гаспадары не маюць дзяцей ці іншых членаў сям'і, якія абавязаны былі б ім дапамагаць. 150 адмоўных адказаў вынікала з недахопу юрыдычных падстаў, а дакладней кажучы з таго, што гаспадары, якія хочуць перaказаць зямлю дзяржаве, маюць гаспадаркі меншыя ад 5 гектараў. Не прымаюць зямлі ў замен за пенсію і тады, калі гаспадарка занадта задоўжаная падаткамі.

Цяжкасці ў пераймаaнні занядбаных гаспадарак асабліва выразныя ва ўсходніх паветах, дзе малая колькасць ПГР-аў. Так, напрыклад, у Гайнаўскім павеце ў гэтым годзе да месяца кастрычніка 45 гаспадароў склала заявы на перадачу зямлі дзяржаве. Згоду атрымала толькі 10. Большасць гаспадароў атрымала адмоўныя адказы. Бо ў Гайнаўскім павеце ўсяго адзін ПГР у Новым Беразове і 6 прадукцыйных спулдзельняў, якія аднак маюць зямлі, хоць адбаўляй. У пачатку гэтага года ў Гайнаўскім павеце было 4907 гектараў дзяржаўнага фонду зямлі і колькасць гэтая безупынна павольшваецца. У гэтым годзе падчас камасацыі грунтаў у Трасцянцы і Белках аказалася каля 200 гектараў зямлі без уласнікаў, яе вымушана была пераняць на свой конт дзяржава.

У многіх выпадках цяжар зямлі настолькі дакучлівы для яе ўласнікаў, што рашаюцца яны перадаваць зямлю дзяржаве, не патрабуючы за гэта ні пенсіі, ні ніякай іншай рэкампенсаты. «Каб толькі не мець яе на галаве, ды не плаціць падаткаў». Так, напрыклад, у Белавежы такім чынам перадало дзяржаве свае гаспадаркі каля 14 гаспадароў. Гэта, зразумела, гаспадары, якія маюць іншыя сродкі жыцця, працуюць на дзяржаўных працах.

Вёска старэе. Расце цяжар зямлі ў многіх гаспадароў, растуць клопаты улад — што рабіць з гэтаю зямлёю! А рабіць нешта трэба, абавязвае нас лозунг: ніводзін гектар зямлі не можа заставацца незагаспадараваным. Ці няма на гэта рады? Ёсць, і то даволі простая. Трэба павялічыць колькасць ПГР-аў у нашых паветах. І гэтую прапанову трэба накіраваць у адрас Ваяводскага праўлення ПГР-аў. Вырашэнне праблемы апушчанай і незагаспадараванай зямлі з'яўляецца адной з найбольш істотных праблем Беласточчыны.

**У. Паўлючук**




### ВАШ ІДЭАЛ?

На нашы пытанні адказвае Раіса Патэюк — асістэнт грамадскага агранома ў Дубічах Царкоўных.

— Ці часта бываеце ў вёсках?

— Амаль кожны дзень. Дык што з таго! Гавару, тлумачу, як трэба, што трэба, а гаспадары і так па-свойму. Вось летам праводзілі ў нас комплекснае апырскванне палёў. Колькі бяды было! Некаторыя сяляне проста не хацелі пусціць нас на сваё поле.

— Але хіба ёсць гаспадары, якія разумеюць сваю справу?

— Толькі нямногія разумеюць яе правідлова. Вось Уладзімір Корч з Тафілаўцаў. Мае дасканала абсталяваную пашу, кожны год закладае вопытныя дзялянкі, правідлова прымяняе штучнае ўгнаенне. Або Рыгор Панасюк з Трабаўца. Сее паплёны і таксама не шкадуе грошай на штучныя ўгнаенні. З гэтымі гаспадарамі прыемна гутарыць.

— Што б вы ўвялі, каб гэта ад вас залежала?

— У многіх вёсках з Дубіцкай грамады парабіла б прадукцыйныя спулдзельні або ПГР-ы. Вось у Елёнках. Вёска маленькая — 34 гаспадары, зямля зусім слабая, нічога не ўдаецца. Там бы абсталяваць нейкую жывёлагадоўчую ферму. Або ў Чэхах Арлянскіх. Амаль усе гаспадары працуюць на чыгунцы. Пра гаспадарку мала хто дбае. Яна ім там патрэбная толькі дзеля таго, каб закалоць пад свята парсюка, каб мець свежае яйцо, каб не купляць бульбы, агароднiны і малака. Такое гаспадараванне давядзе нас да руіны. Хто хоча быць сапраўдным гаспадаром, хай трымаецца толькі сваёй гаспадаркі.

— Не думаеце ўцякаць у горад?

— Я ў горадзе ніколі не жыла, і гарадское жыццё мяне не маніць. Аграномам стала я па ўласнай волі. Дык чаго ж мне да шчасця патрэба?!

А прысутны пры гутарцы старшыня ГРН М. Чыквін дадаў:

— Мы Раісу нідзе ад нас не пусцім, тут яе выдадзім замуж, хату адчыканім...

— А за якога хлопца вы б, Рая, ахвотна выйшлі замуж, які ваш ідэал?

— Перш за ўсё не люблю п'яніц. Мой хлопец можа піць віно, а нават і гарэлку, калі дзеля гэтага ёсць важная нагода, для кампаніі, але піць культурна, з памеркаваннем. Ён павінен разумець і шанаваць маю працу. Добра было б, каб цікавіўся тэатрам, фільмам, каб чытаў кніжкі і газеты, каб ведаў, што чуваць у палітыцы.

— А вы гэтым усім цікавіцеся?

— А як жа! Як толькі час дазволіць, гляджу тэлевізійную праграму, пастаянна чытаю «Новую Весь», «Зажэве» і «Штандар Млодых».

— І што ў апошні час выклікала ў вас самае вялікае зацікаўленне?

— Палёт амерыканскіх касманаўтаў на месяц. Гляджу на здымкі, чытаю справаздачы з гэтага палёту і не хочацца верыць, што гэта праўда. Адабралі гэтаму «цыганскаму сонцу» ўсю яго рамантыку. Цяпер нам, маладым, калі сэрца заные ад тугі, неяк сорамна нават паўздыхаць да месяца. Адносіш ураж анне, што нехта глядзіць на цябе, з гэтай вышыні. Паводле мяне, лепш бы амерыканцы ўпарадкавалі свае справы тут, на зямлі. Чулі, якіх зверстваў дапускаюцца яны ў В'етнаме?

Раіса — радны дубіцкай ГРН, член Павятовага праўлення ЗМВ у Гайнаўцы, старшыня грамадскага праўлення ЗМВ у Дубічах і адначасова старшыня мясцовага гуртка ЗМВ.

**Віктар Рудчык**

### ШКОЛА Ў ВІЛІНАВЕ

Сярод школ у беларускім асяроддзі Сямяціцкага павета — школа ў Вілінаве бясспрэчна належыць да ліку найлепшых. Гэта сцверджанне тым больш каштоўнае, што вілінаўская школа мае цяжкія ўмовы працы. Размешчана яна ў некалькіх вясковых хатах.

Звяртае ўвагу добрая арыентацыя вучняў у беларускай мове ды літаратуры, што з'яўляецца найпершай заслугай не толькі настаўніка, але і кіраўніка школы.

І яшчэ адно, што адразу кідаецца ў вочы пры першым аглядзе школы — гэта дасканалая дэкарацыя класаў, цытаты на транспарантах не банальныя. У будучым будзе больш дэкарацый з беларускім зместам, мовай. (ся)

**БЕЛАРУСКІ СПОРТ**

# У ЧЫМ СІЛА АЛЯКСАНДРА МЯДЗВЕДЗЯ?

Першы раз гэта было ў 1962 г. у Амерыцы, на чэмпіянаце свету па вольнай барацьбе, куды Аляксандр Мядзведзь прыехаў у прывілеяванай ролі дэбютанта, якога мала ведаюць і якому няма чаго траціць. Але калі дайшла чарга да апошняй схваткі, раптам аказалася, што страціць ён можа вельмі многа. І знайсці таксама. Ён зрабіў тое, што рэдка ўдаецца навічку: на шляху да фінала абыграў, перахітрыў, перасіліў, прыціснуў лапаткамі да дывана ўсіх праціўнікаў сваіх і цяпер застаўся найбольш вядомы з вядомых, алімпійскі чэмпіён з Ірана Гулям Тахці.

Перс меў толькі адно штрафное ачко, як і Мядзведзь, але быў лягчэйшы за яго на 600 грамаў і ведаў, што нічыя вывядзе яго ў чэмпіёны. І Мядзведзь таксама ведаў аб гэтым, і таму ішоў наперад, навязваючы праціўніку свой тэмп і сваю манеру, быццам гаворачы яму: ты ж мужчына, ты ж барэц, ну куды так спяшаеш за дыван, давай зыдземся на сярэдзіне і паглядзім, хто каго.

Перс быў дужы, вёрткі і хітры, Аляксандр Мядзведзь нічога не мог зрабіць з ім, і, калі прахрыпеў сігнал аб заканчэнні схваткі, ва ўсіх у нас сапсаваўся настрой. А да Тахці падбеглі яго радасныя суайчыннікі, падхапілі на рукі, надзелі на яго гірлянду з ружаў і скрыліся з ім у пакойчыку, дзе стаяла вага. Туды ж панура ішоў Мядзведзь.

І раптам з-за сценкі пачуўся горкі плач Тахці. Ён выбег з пакойчыка, зрываючы на хаду пялёсткі ружаў, якія прыліплі да мокрага цела, ён стараўся ні на каго не глядзець. Аляксандра цалавалі сябры. Аказалася, што ў час кароткага паядынка савецкі барэц страціў на 800 грамаў больш, чым яго праціўнік, і стаў першы раз чэмпіёнам свету!

Ці не ў гэты дзень зразумеў Аляксандр Мядзведзь адзін з галоўных жыццёвых і спартыўных законаў — затрачанае намаганне не прападае. Закон, якім ён кіраваўся ўсе гады службы ў арміі, працы, вучобы ў Мінскім інстытуце фізкультуры.









Аляксандр Мядзведзь трэніруецца сам і трэніруе іншых. Аспірант Мінскага інстытута фізкультуры, ён стараецца глыбока зразумець нялёгкую спартыўную навуку, якая памагае чалавеку пазнаць сябе.

У Мядзведзя двое дзяцей. Ён дбайны бацька і муж. У яго многа сяброў. І не толькі сярод барцоў.

Фота В. Сафронава

Праз два гады на Алімпійскіх гульнях у Токіо Аляксандр Мядзведзь быў ужо не навічком, а лідэрам каманды савецкіх барцоў вольнага стылю. Яго праціўнікі — швед Эрыксан, балгарын Мустафаў, румын Бало, турак Атлі, усё той самы перс Тахці. Яны ветліва вітаюцца, пытаюцца аб справах, а самі, так здаецца Мядзведзю, прымерваюцца: ці ўсё тая ў яго сіла, ці ўсё так сама моцная рука?

Наогул Аляксандра вочы з хітрынкай. Але калі ён глядзіць на паваленага праціўніка, у іх чытаецца спачуванне. Ён быццам бы перапрашае за тое, што ўзяў вось так, абхапіў, кінуў на дыван і пачаў бязлітасна ўціскаць лапаткі.

Толькі з Атлі ён зрабіў цяжкую нічыю. Цяпер, каб стаць чэмпіёнам, яму трэба было перамагчы Мустафава. І ён паказаў, як павінен бароцца чэмпіён.

Яшчэ раз я сустрэўся з Аляксандрам на Алімпіядзе ў Мехіка. Ён прыехаў сюды чатырохкратным чэмпіёнам свету, а цяпер чакала яго самае галоўнае выпрабаванне, таму што Аляксандр не мог прызвычаіцца да мексіканскай вышыні і ўсё давалася яму цяжэй, чым іншым, але выгляду ён не падаваў. Цяпер ён выступаў у цяжкай вагавай катэгорыі; сярод яго праціўнікаў быў малады і магутны балгарын Осман Дуралієў, і савецкаму барцу ніяк не ўдавалася правесці хоць бы адзін прыём. І ўсё ж Мядзведзь злаўчыўся, спружыніўся, прыўзняў праціўніка, перавёў у партэр, выйграў ачко і выйграў сустрэчу... А потым... Потым поўгадзіны быў непрытомны. І мы не ведалі, ці знойдзе ён сілы выйсці на фінальную сустрэчу. Але ён знайшоў і перамог.

Такі ён, барэц, які два разы выйграў Алімпіяду і пяць разоў сусветныя чэмпіянаты. Такога майстра, бадай, яшчэ не ведала барацьба.

**А. Кінкадзе**
**(«Савецкі Саюз»)**



## Літаратурныя гульні

### ВІКТАРЫНА № 3

Па ўрыўках, якія даюцца ніжэй, назавіце аўтараў і назвы твораў.

1) Ходзіць восень у свіце шэрай,
З непагодных хмар сатканай,
Распусціла ветры-косы
Над палямі, над барамі...
Ходзіць злосная, плюецца,
Лісце жменямі шпурляе...

2) Як мары, белыя бярозы
Пад сінявой начной стаяць,
У небе зоркі ад марозу
Пахаладзеўшыя дрыжаць.

3) Голасам моцы, ціха і важна
Гром пракаціўся ўгары.
Луг адазваўся грому працяжна
Лес адгукнуўся стары.

4) Плыве ноч над зямлёй, маўчыць аснежаная зямля, спіць шырокая даль палёў, і ўрачыстая ціш, звонкая і чуткая, суправаджае павольны лёт ночы.

Адказы просім прысылаць да 8 студзеня 1970 год.

Развязка з № 50 «Нівы» з 14 снежня 1969 г.: 1) Гусляр з паэмы Я. Купалы — «Курган» 2) Лаўрэн — галоўны герой апавядання Э. Самуйлёнка — «Паляўнічае шчасце»; 3) Князь з паэмы Я. Купалы «Курган»; 4) Дарэктар — вандроўны настаўнік з паэмы Я. Коласа «Новая зямля».

### УЗНАГАРОДЫ

Узнагароды за віктарыну № 1 вылясавалі Я. Балтручук — Войшкі, Бельскі павет; Л. Дубяга, І. Мушкатэль, К. Янушык, В. Рышчук, І. Баранаў з ас. Чаромха; М. Верамчук, В. Пясэцкая, Н. Кусачук, Р. Мушкатэль, Н. Лук'янюк, Т. Мушкатэль, Ул. Панасюк, Э. Рашчэнка, — пачатковая школа ў Чаромсе; У. і Э. Цясноўскія, М. Салавей, А. Акудовіч, Г. Грыка — Новая Луплянка, Беластоцкі павет; А. Грыц, Я. Мурашкоўскі, А. Дудко, Э. Бяленя, Н. Сыльвеструк, Э. Грыц, З. Ціванюк — Старая Луплянка, Беластоцкі павет; Л. Раманчук — Полаўцы, А. Смык — Ставішча, Гайнаўскі павет; Л. Віталіс — Волька Нурэцкая, Сямяціцкі павет; Э. Лаўрэшук — Раманова, Л. Саўчук — Рэпчыцы, Г. Андрасюк — Войнаўка, Гайнаўскі павет.

Рэдагуе А. Карпюк

## ці ведаеце, што...

...Янка Купала не дажыў дзевяць дзён да свайго шасцідзесяцігоддзя. Нарадзіўся 7 ліпеня 1882 года, памёр 28 чэрвеня 1942 года.

...у 1923 годзе ў італьянскім часопісе «Усходняя Еўропа» былі надрукаваны вершы Якуба Коласа «Ворагам» і «Не бядуй» (урывак).

...у 1939 годзе Якуб Колас быў узнагароджаны ордэнам Леніна.

...апошнім творам Янкі Купалы з'яўляецца паэма «Дзевяць асінавых колляў». Смерць не дала магчымасці закончыць гэты цікава задуманы твор.

...народны паэт Беларусі Янка Купала — двойчы акадэмік. У 1928 годзе ён быў абраны правадзейным членам Акадэміі навук БССР, а праз год — Акадэміі навук Украінскай ССР. (а-к)

## Чэрць стагоддзя назад




### ДА МЕСЦА ВЫСАДКІ

Шкада, што пра многае дазнаешся занадта позна, калі гэта ўжо не можа спатрэбіцца. Як часта здаралася, ратуючыся ад аблаў, стараючыся пазбегнуць сутычак з ворагам, мы хаваліся не ў ціхіх кутках, а лезлі, як кажуць, самому чорту на ражон, траплялі ў самыя небяспечныя месцы, самі таго не ведаючы.

Так якраз і было ў першыя дзесяць дзён пасля высадкі. Калі прасачыць за нашым маршрутам, то атрымліваецца, што мы прабіраліся ад вёскі Эльхталь — каля якой высадзіліся — да самай стаўкі Гітлера, да «Вольфшанце», што азначае ў перакладзе на нашу мову «воўчая бярлога». Выявіўшы пасля пераправы ракі Парве доты, «Зубы дракана», розныя іншыя аб'екты лініі ўмацаванняў, вядомай пад назвай «Ільменхорст», мы пайшлі ўздоўж гэтай лініі на поўдзень. «Ільменхорст» цягнулася ад Літвы на поўнач да Мазурскіх азёр, непраходных балотных багнаў на поўдні. На поўдні ў цяжка даступных месцах, акружаных абарончымі патаемнымі збудаваннямі, прыроднымі перашкодамі, і знаходзілася «Вольфшанце». Не было ніякіх прыкмет, што тут можа знаходзіцца нейкі важны аб'ект ворага — лес, балота, ніякіх пабудоў. Усё было схавана глыбока пад зямлёй. Цяпер вядома, што на забудаванні «Воўчай бярлогі» працавалі палонныя, якіх потым забівалі, каб захаваць тайну. Вось тут, у «Воўчай бярлозе», і быў зроблены замах на Гітлера за тыдзень да нашага прызямлення. Пра гэты замах мы даведаліся яшчэ ў Сухадоле пад Смаленскам. Тады ж па ўсім свеце пайшла пагалоска, што Гітлер забіты. Аб гэтым трубіла замежнае радыё, пісала прэса. Каб абвергнуць гэтыя чуткі, Гітлер праз дзень пасля замаху на яго сам асабіста выступіў па радыё.

Кожны з нас па-свойму каменціраваў гэту падзею. Адны лічылі, што яна нам, разведчыкам, на руку, бо ў Германіі служба бяспекі будзе па горла занята выяўленнем змоўшчыкаў. Іншыя сцвярджалі, што замах насцярожыць фашыстаў і таму абставіны для разведкі яшчэ больш ускладняцца. Але нікому з нас і ў галаву не прыходзіла, што стаўка Гітлера знаходзіцца не ў Берліне, не ў цэнтры Германіі, а іменна ва Усходняй Прусіі. Мы ж не дайшлі да гэтай самай «Воўчай бярлогі» ўсяго якіх-небудзь 20—30 кіламетраў. І магчыма, мы падышлі б яшчэ бліжэй да яе, бо хто ж ведаў, што ў гэтай лясістай, забалочанай мясцовасці, воўчым прыстанішчы, сядзіць Гітлер са сваімі прыбліжанымі. Тут жа недалёка былі штабы пяхотных войск і паветраных сіл райха. Каля герынгаўскага штаба мы нават прайшлі. Затаіўшыся ў сваёй «Воўчай бярлозе», фюрар лічыў сябе ў поўнай бяспецы. «Вольфшанце» была акружана міннымі палямі, замаскіраванымі дротавымі агароджамі, падыходы моцна ахоўваліся.

Пры падыходзе к Гольдапу мы заўважылі, што вакол лесу, у які мы мелі намер увайсці, было ўстаноўлена кругласутачнае дзяжурства. Пацвердзіў тэта і ўзяты намі вартавы. Яму трэба было сачыць, ці не з'явяцца тут савецкія парашутысты, а калі з'явяцца, то вызначыць, у якім напрамку яны пойдуць. Як толькі мы на світанні зайшлі ў лес, адразу ж пачалася прачэска яго. Падрыхтавацца да такой аперацыі адразу пасля нашага прыходу, вядома, было немагчыма. Значыць, яна была прадумана і падрыхтавана загадзя, з мэтай перахапіць нас на шляху да «Воўчай бярлогі». Акрамя пяхоты, у прачэсцы ўдзельнічалі і лётчыкі, і абслугоўваючы персанал аэрадрома, які знаходзіўся непадалёку. Мы гэта заўважылі па форме, у якую людзі з аэрадрома былі апранутыя. Можа таму нам удалося пазбегнуць страт, што нашы праследвальнікі ўзяліся не за сваю справу. Да таго ж, яны не надта рызыкавалі лезці пад кулі. Мы ж ім паказалі, што хадзіць за намі па пятах — небяспечна.

Атрымаўшы радыёграму з загадам на выхад да чыгункі Кенігсберг — Цільзіт, Шпакаў рашыў весці групу не па тым маршруце, па якім мы ішлі на поўдзень. Вядома, нам было лягчэй ісці па ўжо знаёмых мясцінах, але, у той час, мы не маглі дазволіць сабе такую «раскошу». Мы рашылі паглыбіцца на захад, абагнуць буйны вузел камунікацый гарадок Грос-Скайсгірэн і выйсці да Кенігсберга.

Вывучыўшы новы маршрут па карце, Шпакаў так і аб'явіў:

— Пойдзем заходней Грос-Скайсгірэна. Калі дасягнем месца прызямлення, то кола нашага маршруту замкнецца.

На днёўку спыніліся на беразе ракі Дайме. Перад упадзеннем у мора яна цякла свабодна, шырока. Каб пераканацца, што яна глыбокая, нам не трэба было мераць дно. Буксіры і катэры плавалі па ёй.

Нам трэба было пераправіцца на той бераг. Міжволі прыгадалася пераправа цераз Парве. Там назаўсёды застаўся Крылатых.

Пераправіліся ўдала.

Ішлі ўсю ноч і да раніцы прыйшлі на месца. Па чыгунцы грукаталі эшалоны. Гэта была важная магістраль. З Берліна цераз Бромберг—Кенігсберг яна цягнулася да граніцы Літвы. Яшчэ ў 1940—1941 гадах гітлераўскія войскі перакідваліся па ёй на Усход для нападу на Савецкі Саюз. Пачаўшы адсюль свой разбойніцкі паход, фашысты акупіравалі Прыбалтыку, дайшлі да Ленінграда. Цяпер звышчалавечымі намаганнямі, цаной незлічоных ахвяр Савецкая Армія адкінула гітлераўцаў на першапачатковыя пазіцыі. Вялікая групіроўка іх бы-

# ТРЫБУНА чытачоў

### АГЛЯД АМАТАРСКІХ КАЛЕКТЫВАЎ

Аддзел культуры павятовай рады нарадовай у Беластоку 7-га снежня ў Гарадку арганізаваў агляд мастацкіх калектываў. З Беластоцкага павета на агляд у Гарадок прыехалі самадзейнікі з Рагова. Заблудава, Супрасля (2 калектывы), з Чорнай Беластоцкай (2 калектывы), з Чорнай вёскі Касцельнай і Пагажалак.

У аглядзе браў таксама ўдзел гарадоцкі мастацкі калектыў БГКТ. Выступаў ён у двух катэгорыях: у драматычнай і харавой. Атрымаў ён дзве ўзнагароды: магнетафон і 20 пласцінак. Узнагароджаны былі таксама мастацкія кіраўнікі гарадоцкага калектыву Ніна Мушынская і Сцяпан Копа. (мм)

### СУСТРЭЧА З НАСТАЎНІКАМІ

Прэзідыум грамадскай рады нарадовай у Семяноўцы супольна з павятовым праўленнем БГКТ у Гайнаўцы 29 лістапада з нагоды Дня настаўніка арганізавалі сустрэчу з настаўнікамі семяноўскай грамады. З дакладам аб ролі настаўнікаў у жыцці грамады выступіў сакратар ГРН Юры Кіслы. Падзяку настаўнікам за іх ахвярную працу зламсылі падінспектар асветы Сяргей Бароўскі, старшыня ГРН Міхась Васільчук, старшыня гайнаўскага аддзела БГКТ Аляксандр Іванюк, наш паэт Алесь Барскі і прадстаўнік семяноўскага бацькоўскага камітэта. Арганізаваны там быў таксама багаты пачастунак. Ад імя настаўнікаў Тамара Ціванюк выказала глыбокую ўдзячнасць арганізатарам памятнага вечара. (мс)

### ДОБРААХВОТНЫЯ ГУФЦЫ ПРАЦЫ

Арганізатарамі добраахвотных гуфцаў (брыгад) працы з'яўляюцца павятовыя праўленні Саюза вясковай моладзі і Саюза сацыялістычнай моладзі. У апошнія гады на вёсках сталі папулярнымі робраахвотныя брыгады працы даходзячага тыпу. У 1965 годзе такіх брыгад на Беласточчыне налічвалася толькі 122, а ужо ў 1968 годзе было іх 256. У бягучым годзе маем іх у Беластоцкім ваяводстве больш, чым 300, яны аб'ядноўваюць каля 7 тысяч маладых людзей. Зараз такая брыгада арганізоўваецца ў Саколцы пры сталярскім прадпрыемстве. (СС)

### ЛьЗС

Народныя спартыўныя калектывы ЛьЗС здабываюць усё большую папулярнасць на вёсцы. На Беласточчыне ў бягучым годзе гурткоў ЛьЗС налічваецца 1122, а колькасць членаў 36 421. Гурткі ЛьЗС у многіх выпадках арганізоўваюць і будуюць сабе спартыўныя пляцоўкі. Напрыклад, у гэтым годзе ў Сакольскім павеце гурткі ЛьЗС грамадскім чынам пабудавалі 14 спартыўных пляцовак. (мх)

### ПАМЯТНЫ ДЗЕНЬ

У ляўкоўскай школе ўрачыста святкавалі Дзень настаўніка. Вучні падрыхтавалі кароткую прамову і мастацкую частку. Спявалі песні, дэкламавалі вершы, прысвечаныя настаўнікам. Затым уручылі нашым дарагім настаўнікам скромныя падарункі. Вечарам адбылася супольная патанцоўка. Гэты дзень мы з прыемнасцю ўспамінаем яшчэ сёння.

**Зося Несцярук, Старое Ляўкова**




**Дарагое Сэрцайка!**

Мне няцэлых 18 год. Жыву на вёсцы. Дагэтуль я хадзіла з Янкам. Але потым нашае сяброўства парвалася. Мною пачаў цікавіцца другі хлапец. Але перада мною Вітэк (так называецца) хадзіў з Оляй. Потым пакінуў яе і па нейкім часе пачаў заляцацца да мяне. Цяпер Оля са мной не гаворыць нават. Вітэк мне вельмі падабаецца, я яму таксама. Хоча на мне жаніцца, толькі мне трохі не хапае да 18-ці год. Ён чакае.

Не знаю, што рабіць, ці выходзіць за Вітка, ці адаслаць яго да Олі. Вітку 25 год. Пыталася таксама я ў сяброўак. Яны раяць мне выходзіць за Вітка, бо ён вельмі добры хлапец.

А цяпер другая справа. Мне сяброўка Олі гаварыла, што па новым годзе, каб выйсці замуж трэба мець 21 год, а хлопцу 23. Прашу цябе, Сэрцайка, адкажы мне на гэтае маё пытанне і парай, што рабіць.

**Вера з Гайнаўшчыны**

**Вера!**

Калі табе сапраўды Вітэк падабаецца і ты яму, дык няма патрэбы адсылаць яго да Олі, якую ён перад табой яшчэ пакінуў. Не ўсе ж жэняцца з тымі дзяўчатамі, з якімі ходзяць, і не ўсе дзяўчаты выходзяць замуж за іх. Наконт другога твайго пытання гэта выдумка. Мо' сяброўка Олі спецыяльна маніць табе, каб ты пакінула Вітка, Не ведаю толькі, які гэта мае сэнс, бо ўсё ж залежыць ад самога Вітка, каторую з вас ён хоча мець за жонку. Ён выбраў цябе і ўсё цяпер залежыць толькі ад цябе: ці хочаш стаць яго жонкай. Маё «але»: толькі тое, што ты яшчэ вельмі маладая, каб выходзіць замуж.

Жадаю ўсяго найлепшага

**Сэрцайка**

### ЛЁНЯ КАЗБЕРУК

Лёня Казберук з Круглага Ляска ў Беластоцкім павеце ў сваім гуртку вясковай моладзі ўвесь час праяўляе вялікую актыўнасць. Гурток гэты не толькі арганізуе культурна-асветную дзейнасць у сваёй вёсцы. Ён актыўна ўключаецца і да грамадскіх чынаў пры рамонце дарог.

Лёня Казберук быў доўгі час старшынёй гуртка ЗМВ. Зараз з'яўляецца намеснікам старшыні. Здабыў ён вялікую пашану сярод моладзі, а менавіта таму, што ён заўсёды з'яўляецца абаронцам інтарэсаў моладзі. Ён хвалюючыя справы свайго асяроддзя смела ставіць не толькі па пасяджэннях грамадскага праўлення ЗМВ-у ў Юшкавым Грудзе, але і ў павеце і ў ваяводстве.

З трыбуны павятовай справаздачна-выбарчай канферэнцыі ў Беластоку ён задаваў пытанне «З якой рацыі патрабуецца 15 тыс. зл. за перапісанне гаспадаркі з маці на сына»? А зноў з трыбуны ваяводскага справаздачна-выбарчага з'езду ЗМВ, які адбыўся 26 і 27 лістапада, Лёня Казберук даказваў, што ўлады замала дапамінаюцца ад прамысловасці прадукцыі «разжутнікаў» мінеральных угнаенняў. Уручную рассяваюць сяляне мінеральныя ўгнаенні, а гэта шкодзіць здароўю.

Ужо нават гэтыя дзве справы, якія Лёня Казберук парушаў на такіх вялікіх сходах, сведчаць аб тым, што ён вырас на сапраўднага дзеяча, які бачыць хвалюючыя праблемы свайго асяроддзя. (мх)

### МІНІ-СПАДНІЧКІ

Дзе ні глянеш навокал — маладыя, у сярэднім веку, а часамі і старэйшыя, усе ходзяць у міні. Такая мода. І яна павінна адбыць свой час, так як і іншыя моды. Праўда, крытыкуюць яе мацней, чым іншыя моды. І вось на вывядоўцы ў ліцэі медсясцёр у Бельску Падляшскім дырэктар гэтай школы моцна крытыкаваў сваіх выхаванак за гэтае «міні». Відаць ён не заўважыў, што побач з ім сядзелі яго супрацоўніцы ў такіх жа «міні». А прыклад жа ідзе з гары. Маладыя дзяўчынкі прыклад бяруць ад старэйшых. Але калі б яны нават адзелі доўгія сукенкі, то было б гэта нават смешна. Яны адрозніваліся б ад другіх. На іх звярталі б увагу, крытыкавалі б. А так няма нічога надзвычайнага, калі мода дык усім. Маладым, старэйшым і старэнькім.

Чытач «Нівы»<br>Бельскі павет

### КАЛЕКТЫЎ СА ШКОЛЬНІКАЎ

Кіраўніком святліцы ў Орлі з'яўляецца Вера Валкавыцкая. Яна арганізавала са школьнікаў мастацкі калектыў. Ёсць тут харавая і танцавальная групы. Гэты аматарскі калектыў мае ўжо пэўныя дасягненні. Выязджаў нават з канцэртам да Збуча.

Вера Валкавыцкая імкнецца арганізаваць харавы калектыў з моладзі і старэйшых. Але ўсё гэта разбіваецца з-за таго, што няма каму аплаціць дырыжора. На гэту патрэбную справу для Орлі і ГРН, і ГС, і фабрыка кафлі — ніхто нічога не хоча даць. Не хочуць праявіць аніякай зацікаўленасці вышэй успомненыя ўстановы. І чаму ж гэта так? Няўжо ім зусім абыякавая культурная дзейнасць? А калісьці ў Орлі быў добры харавы калектыў, вядомы нават па-за Бельскім паветам. Калі ж Орля верне мінулую славу? (XX)

**Будні Бельскага ліцэя**

### ВУЧНЁЎСКІ КААПЕРАТЫЎ

Бельскі беларускі ліцэй — гэта адна з лепшых бельскіх школ. Знаходзіцца тут міжшкольны лекар і зубны лекар, і таму сюды прыходзяць вучні амаль усіх школ у Бельску. Асаблівай увагі заслугоўвае тут вучнёўскі кааператыў, які ў жыцці школы адыгрывае вялікую ролю. У краме працуюць вучні гэтай жа школы. Можна тут купіць рэчы, якія патрэбны кожнаму вучню. Апрача школьных прыбораў, можна купіць там і спажывецкія артыкулы. У краме пануе чысціня, лад і парадак. Штодзённа хлопцы II класаў прыносяць свежыя булкі і абаранкі. Уся праца крамы залежыць выключна ад саліднай працы нашага кіраўніка крамы, настаўніка Рыгора Анаціка, які стараецца, каб кожны вучань мог тут купіць патрэбныя яму рэчы. Апрача працы нашага выхавацеля Рыгора Анаціка, варта адзначыць працу прэзаса крамы Л. Палавянюк — вучаніцы IIIа класа, якая таксама шмат грамадска працуе, імкнецца забяспечыць краму ўсім неабходным на карысць вучнёўскага кааператыва.

### АБЕДЫ Ў ШКОЛЕ

У Бельскім беларускім ліцэі амаль каля сотні вучняў абедае ў школе. Частка вучняў есць толькі суп, але большая частка поўныя абеды. Гэта прыносіць вялікую карысць вучням, якія даязджаюць да школы з суседніх мясцовасцей, а таксама вучням, якія жывуць на прыватных кватэрах. Абед вучні атрымліваюць пасля пятага ўрока.

**Вера Ахрымюк, Бельскі беларускі ліцэй**

---

ла акружана ў Курляндыі. Набліжаўся час расплаты.

На світанні Шпакаў паслаў мяне з Мельнікавым да самай лініі чыгункі сачыць за рухам цягнікоў. Чыгунка ў гэтым месцы праходзіла лесам, таму мы падышлі так блізка, што нават не паспявалі разгледзець нумары і надпісы на імклівых вагонах. У бок фронту прайшло некалькі эшалонаў з войскамі, танкамі, гарматамі, каціліся цыстэрны з гаручым. А з фронту везлі жывёлу. У спальных вагонах, з эмблемай чырвонага крыжа, былі раненыя. Весці назіранне з такой блізкай адлегласці было і нязручна і небяспечна — нас маглі заўважыць з вагонаў. Мы адшукалі сабе патаемнае месца на беразе лясной рэчкі Швентойя.

Лес кончыўся на ўзгорку, а ўнізе буялі густыя зараслі маліннiку, крапівы. У іх можна было надзейна схавацца і ўсё бачыць, што робіцца на дарозе. Высока цераз раку быў перакінуты чыгуначны мост. У пралёт пад ім відаць была частка вёскі Міншэнвальдэ. Адным словам, назіральны пункт быў вельмі ўдалы. Шпакаў сказаў:

— Перавяду сюды ўсю групу, — і пайшоў па нашых людзей.

Спачатку тыя дамы, што былі нам відаць у пралёт моста, здаваліся бязлюднымі. Мельнікава гэта насцярожыла.

— І куды толькі фрыцы дзеліся? — незадаволена бурчаў ён, не адрываючыся ад бінокля. — Не шкодзіла б пажывіцца ў іх. Вяндлінка, напэўна, вісіць вунь на тым гарышчы, дзе фортка адчынена.

У поўдзень вёска ажывілася. Якраз каля таго доміка, які аблюбаваў Мельнікаў, спыніліся тры грузавікі. На адным з іх былі ўключылі рэпрадуктары. Спачатку да нас данесліся маршы, потым пачуўся голас дыктара, але на адлегласці мы не маглі разабраць слоў. Першымі да машын прыбеглі хлапчукі, потым сталі падыходзіць дарослыя. Неўзабаве сабраўся даволі вялікі натоўп. Адна машына з адкрытым кузавам стала служыць трыбунай. Перад натоўпам пачалі выступаць па чарзе нейкія людзі ў вайсковай форме і цывільныя. Іх слоў мы таксама не маглі разабраць.

Усё стала зразумелым трохі пазней. Пасля мітынгу салдаты пачалі раздаваць вінтоўкі, з доўгімі стваламі, відаць трафейныя, і пачкі з патронамі. Узрадаваныя блазнюкі, крыху адышоўшы ўбок, сталі зараджаць вінтоўкі і паліць угору. Дзяўчаты і бабы, загаліўшы калені, трымалі патроны ў прыполах.

Вечарам Шпакаў прывёў да ладу здабытыя звесткі, падрыхтаваў данясенне. Для таго, каб перадаць яго ў «Цэнтр», рашылі адысціся ад гэтага месца кіламетраў за дзесяць—пятнаццаць. Не хацелася страціць такое зручнае месца. Пад самым носам у фрыцаў добра было весці назіранне, ды і наўрад ці прыйдзе ў галаву некаму шукаць нас тут. Пасля сеанса радыёперадачы разлічвалі пайсці па харч.

— Заставайцеся да наступнага вечара, прышлю сюды змену, — сказаў на развітанне Шпакаў.

Ён павёў астатніх разведчыкаў на ўсход, у абход вёскі Міншэнвальдэ, цераз чыгунку і канал Тымбер.

А я з Мельнікавым застаўся назіраць за дарогай.

**(Працяг будзе)**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Alfa, Romeo i Julia" (węgierski), 30—31.XII. „Wyzwanie dla Robin Hooda" (angl.), 1—2.I. „Pomyłka szpiega" (radz.), 3—4.I.

**Нараўка**

„Trzy topole" (radz.), „Pierwszy krzyk" (czeski), 31.XII—4.I.

**Чыжы**

„Krzyżacy" (polski), „Wątła nić" (USA), 31.XII—4.I.

**Дубічы Царкоўныя**

„Spotkałem nawet szczęśliwych cyganów" (jugosł.), „Tarahumara" (meksykański), 31.XII—4.I.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„On nie chciał umierać" (radziecki), „Zakochana wiedźma" (włoski), 31.XII—4.I.

**Орля**

„Ostatnie dni" (polski), „Kapryśne lato" (czeski) 31.XII—4.I.

**Райск**

„Maskarada szpiegów" (angl.), „Manewry Dniepr" (radziecki), 31.XII—4.I.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Wyzwanie dla Robin Hooda" (angielski), „Wniebowstąpienie" (polski), 30.XII—2.I.

**Міхалова**

„Upiór z Morsville" (czeski), 30.XII—31.XII. „Przygody Tomka Saywera" 1—2.I. „Śmierć Indianina" (rumuński), 3—4.I.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Alfa, Romeo i Julia" (węgierski), „Stawka większa niż życie" (polski), 31.XII—4.I.

**Янаў**

„Brat dr Homera" (jugosł.), 31.XII—4.I.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Biały pokój" (bułgarski), 30—31.XII. „63 dni" (polski), 1—2.I. „Październik" (radz.), 3—4.I.

**Мельнік**

„273 dni poniżej zera" (polski), 30—31.XII. „Na szlakach wojennych przygód" (czeski), 1—2.I. „Twój współczesny" (radziecki), 3—4.I.

**Мілейчыцы**

„Pluton 317" (franc.) 30—31.XII. „Polowanie na mężczyznę" (francuski), 1—2.I. „Przygoda z piosenką" (polski), 3—4.I.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Francja naprzód" (francuski), „Zbrodniarz, który ukradł zbrodnię" (polski), 31.XII—4.I.

**Новы Двор**

„Za naszą i waszą wolność" (polski), „Za białym murem" (czeski), 3—4.I.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 7023

# Дыялаг аб тайне сямейнага жыцця

— Не ведаю, як вы, а я не магу сказаць, што шчаслівы ў сямейным жыцці. Хоць у нас цудоўная кватэра і зарабляем мы добра.

— Не здзіўляйцеся. Галоўнае ў сямейным жыцці не матэрыяльны дастатак, а ўзаемны давер.

— Але той, хто любіць, заўсёды раўнуе!

— Магчыма. Але той, хто карыстаецца ўзаемнасцю, заўсёды спакойны.

— Так, але я непакоюся менавіта тады, калі падазраю, што не карыстаюся ўзаемным каханнем. Дзе ж выйсце з гэтага заклдаванага кола?

— Я сказаў: трэба верыць жонцы. Вось ужо семнаццаць год гэты давер з'яўляецца фундаментам нашага шчаслівага шлюбу.

— Зайздрошчу. Але скажыце... Калі вы прыйдзеце дамоў днём, а жонкі яшчэ няма, больш таго, яна вернецца толькі ў дзве гадзіны ночы, вы не спытаеце яе, дзе яна была?

— Вядома, не. Ужо само пытанне сведчыла б аб недаверы. Калі яна мяне кахае, то не будзе рабіць таго, што не трэба, ці не так?

— Значыць, вы раіце, каб я таксама не пытаў?

— Так. Рашуча. Дык калі б яна вам здрадзіла, яна тым больш не пасаромелася б схлусіць. Трэба верыць, што яна вас кахае, — і кропка.

— У вас, несумненна, слаўная дамаседка — жонка.

— Не сказаў бы! Здаралася, што яна прыходзіла дамоў гадзін у дзве ночы і да таго ж пад хмяльком.

— І вы не пыталіся, дзе яна была?

— Зразумела, не. Я лічыў, што раніцай яна раскажа, калі захоча.

— І яна расказвала?

— Не. Я думаў, што калі яна не расказвае, то справа проста не цікавая.

— Вы кахаеце жонку?

— Трачу розум! І веру ёй. Два гады назад яна нейк прыйшла дамоў, і я ўбачыў, што ў яе рукі па локці ў крыві. Вы б на маім месцы пачалі яе распытваць, ці не так?

— Зразумела!

— Глупства! Я сказаў сабе: захоча — сама скажа.

— І сказала?

— Не. Вымылася і пайшла на кухню вячэру варыць.

— А вы? Што вы падумалі?

— Што яна мяне кахае. Без даверу нельга жыць разам.

— А я падумаў бы, што яна забіла свайго каханка.

— Ну і што? Тады тым больш усё ў парадку.

— У вас нервы з вяровак.

— Не. Проста я спакойны. Найважнейшае ўсведамленне, што ты карыстаешся ўзаемнасцю. Нейк, пяць гадоў назад, я прыйшоў дамоў, а жонкі няма. Чакаю, чакаю, не вяртаецца. Прайшоў дзень, тыдзень, месяц, не вяртаецца. Вы б, нябось, пабеглі б у міліцыю?

— Ну, яшчэ б! А вы?

— Я сказаў сабе: у яе, відаць, нейкія справы, калі яна так затрымліваецца. Праз дзевяць месяцаў яна вярнулася дамоў, пацалавала мяне ў лоб, змяніла пялёнкі дзіцяці, якое прынесла з сабою, і пайшла на кухню варыць вячэру.

— А вы? Нават не пікнулі?

— Не, вядома. Я падумаў, што яна раскажа, калі захоча. Не пачну ж я распытваць яе, калі ўпэўнены, што яна мяне кахае!

— І яна расказала?

— Не. Я падумаў: відаць, гэта не цікава, інакш яна абавязкова расказала б.

— Я б задушыў яе. І падпаліў бы хату. І сам бы павесіўся.

— Ці ж гэта лепш? Вы, дарагі сябар, вельмі нервовы. Такія, як вы, ніколі не павінны жаніцца!

**Ласла Табі**



## Галавaломка



Устанавіце, якія з гір, абазначаных літарамі, падымуцца ўверх і якія апусцяцца, калі мы пацягнем за шнур?

*

**Адказ на заданне з папярэдняга нумара:**



### У ЦЫРКУ

— Не разумею, як гэты плюгавенькі чалавечак не баіцца быць утаймавальнікам ільвоў.

— Ён проста не выклікае ў іх апетыту.

### У ВАГОНЕ

Па калідоры вагона бяжыць чалавек, заглядае ў кожнае купэ і ўсхвалявана пытае:

— Ці не знойдзецца ў каго каньяку? Жанчыне ў апошнім купэ стала дрэнна.

Нехта працягвае яму бутэльку. Мужчына адкаркоўвае яе і робіць вялікі глыток.

— Вялікае дзякуй! Мне заўсёды робіцца дрэнна, калі я бачу жанчыну абамлеўшую.

### У ТЭАТРЫ

У тэатры ідзе рэпетыцыя. Маладая актрыса, якая іграе ролю пакінутай жанчыны, праводзіць сцэну так ненатуральна, што рэжысёр у адчаі крычыць:

— Паслухайце, у вас усё выглядае фальшыва! Пастаўце сябе на месца гераіні! Уявіце, што вас кінуў каханы. Што б вы зрабілі?

— Знайшла б іншага.



**— Пане доктар, калі так стаю 20 мінут, пачынае ў мяне балець галава.**

### ГУТАРКА

— Вы чымсьці заклапочаны?

— Мой муж не ўмее гуляць у карты.

— Я б цешылася на вашым месцы.

— Бяда ў тым, што ён не ўмее, а гуляе...

**Без пяці дванаццаць.**

### ГЕНІЙ

Дзве дамы размаўляюць аб сваіх дзецях:

— Мой сын проста геній. Ён у мяне хірург, зрабіў ужо трыста аперацый і, можаце сабе ўявіць, ні разу не парэзаўся.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

По просьбе Ірэны Харкевіч, Ірэны Пучко, Яўгініі Антасюк, Зофіі Юрчук і Ніны Нікіцюк з Янова; Ірыны Чэрнякевіч, Раісы Сранскай, Галіны Петрышыцкай, Данулы Камароўскай, Валянціны Лук'янюк і Кіры Федарук з вёскі Даратынка — Гайнаўскага павета; Марысі Мінюк, Ніны Іванюк, Олі Іванюк, Ніны Назарук, Олі Грыгарук, Любы Назарук, Ані Іванюк і Веры Назарук з вёскі Градочна Беластоцкага павета, змяшчаем песню п.з.

## МОРЗЯНКА

**Слова М. Пляцковского** **Музыка М. Фрадкина**

**Поет морзянка за стеной веселым дискантом,**
**Кругом снега, хоть сотни вёрст исколеси.**
**Четвёртый день пурга качается над Диксоном,**
**Но только ты об этом лучше песню расспроси.** (2 раза)

**Палатки звёздами мохнатыми усеяны —**
**Их дальний свет в своем ты сердце не гаси.**
**Я тоже мог бы рассказать тебе о Севере,**
**Но только ты об этом лучше песню расспроси.** (2 раза)

**Листок зелёный для меня возьми у тополя,**
**В конверте лето доброй почте отнеси.**
**В морозы так нужны нам ваши письма теплые,**
**Но только ты об этом лучше песню расспроси.** (2 раза)

**Меня домчат к тебе, когда зимовка кончится,**
**Олени в нартах, самолеты и такси...**
**Поверь, мне так твои глаза увидеть хочется,**
**Но только ты об этом лучше песню расспроси.** (2 раза)

### У ГОРАДЗЕ

Жыхар чацвёртага паверха сустракае жыхара з трэцяга паверха і гаворыць вінаватым тонам:

— Учора ў нас была невялікая гулянка. Сабраліся старыя сябры па кавалерыйскаму эскадрону. Маю надзею, мы вас не вельмі непакоілі?

— Не, дарагі сусед, ніколькі, але я хацеў бы толькі ведаць, якім чынам вам удалося падняць наверх коней?

### ПАЛІГЛОТ

Калі праўду сказаць, фактычна
Трыма мовамі ён валодае:
Нецэнзурнаю,
Бюракратычнаю
І са слоўнікам...
свaёй роднаю.

**Міх. Раскатаў**



Усё людское нам не чужое.



— Ці ўяўляеш сабе, што мы з'яўляемся сведкамі адвечнага права прыроды?..





### Зразумеў па-свойму

Амерыканскі акцёр Чэрлз Хестан, які здымаўся ў Токіо ў адным з фільмаў, зайшоў у магазін купіць зашпільку-маланку. Японскай мовы ён не ведаў. Натуральна, паспрабаваў растлумачыць сваю просьбу мовай жэстаў. Гандляр уважліва прасачыў за рухамі рукі кліента, ветліва ўсміхнуўся і... прынёс яму бамбуковы набор для харакіры.

### Гібрыд футбола і більярда

У Іспаніі становіцца папулярнай новая гульня: своеасаблівы гібрыд футбола і більярда.

Футбольнае поле абгароджваюць з чатырох бакоў высокай жалезнай сеткай. Варот цяпер не двое, а чацвёра. Мячоў у гульні тры. За гол лічыцца той мяч, які ўвойдзе ў адны з вуглавых варот, ударыўшыся папярэдне аб другі мяч.

Колькасць ігракоў — ранейшая. Варатар у гэтай гульні не мае права стаяць ля варот. Яго функцыі бліжэй да функцый абаронцы.

Колькасць палявых суддзяў даведзена да чатырох.

### САМ САБЕ

Генрых Гейнэ аднойчы сказаў:

— Уласна кажучы, я не меў бы нічога супраць дурняў, хоць іх, на маю думку, занадта многа на свеце, калі б яны не патрабавалі ад мяне падзяляць іх погляды і густы.



**Гэта не бяда, калі ёсць мазоль, бяда, калі на яго наступаюць.**